ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (146) май 2023 год

CATHOLICNEWS.BY



# У Браславе адзначылі 100-годдзе Кангрэгацыі Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі

### Крыху гісторы

100 гадоў таму, у 1923 годзе, бласлаўлёны Юры Матулевіч, будучы арцыбіскупам Віленскай дыяцэзіі, заснаваў Кангрэгацыю Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі, прызначаную пераважна для патрэбаў дыяцэзіі з мэтай распаўсюджвання рэлігійнай адукацыі і развіцця сакраментальнага жыцця мясцовага насельніцтва. Таксама сёстры павінны былі весці місіянерскую працу сярод шматлікіх праваслаўных хрысціян раёна.

Суполка пачала ствараца ў мястэчку Друя на тэрыторыі цяперашняй Беларусі. Спачатку сёстры працавалі ў гімназіі, трымалі жаночую кравецкую школу, школу-інтэрнат, ткацкую і трыкатажную майстэрні, дзіцячы дом, катэхізавалі і служылі ў парафіі. Крыху пазней яны трымалі таксама дзіцячы дом і дзіцячы сад. У камуністычны перыяд, калі статутная апостальская дзейнасць была моцна абмежаваная свецкімі ўладамі, кангрэгацыя пераняла мадэль схаванага служэння душпастырскай працы святароў у парафіях.

### "Усё для Хрыста і праз Хрыста"

29 красавіка па запрашэнні сясцёр-эўхарыстак Апостальскі нунцый у Рэспубліцы Беларусь арцыбіскуп Антэ Ёзіч разам са старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам, мітрапалітам Мінска-Магілёўскім арцыбіскупам Юзафам Станеўскім, дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрыем Касабуцкім, біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам, Апостальскім адміністратарам для вернікаў візантыйскага абраду ў Беларусі архімандрытам Сяргеем Гаекам і многімі святарамі прынялі ўдзел ва ўрачыстым святкаванні 100-гадовага юбілею заснавання манаскай супольнасці.

Урачыстасць праходзіла ў дыяцэзіяльным Санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе. Сёстры сабраліся з усіх куточкаў нашай Бацькаўшчыны, дзе нясуць паслугу. Гэта Барысаў, Астравец, Слабодка, Полацк і Браслаў. Разам з імі на супольнае святкаванне прыехалі і святары з парафіянамі, з якімі працуюць разам.

Як гаспадар дыяцэзіі біскуп Алег разам з сёстрамі перад святыняй прывіталі Апостальскага нунцыя. "Для нас гэта вялікі гонар і радасць гасціць на Браслаўскай зямлі прадстаўніка Апостальскай Сталіцы. Ваша прысутнасць сёння – гэта прызнанне і шанаванне ахвярнай паслугі сясцёр-эўхарыстак, якую здзяйсняюць яны на працягу ста гадоў свайго існавання на гэтай зямлі. Гэта быў няпросты час, час пераследу, ваяўнічага атэізму. Гэта быў час, які даў шмат прыкладаў адданай і гераічнай працы і служэння сясцёр Хрыстоваму Касцёлу".

Падчас гамілії арцыбіскуп Антэ Ёзіч прыгадаў гісторыю манаскай супольнасці і вернасці "Дачок Езуса ў Эўхарыстыі". "Дэвіз кангрэгацыі – "Усё для Хрыста і праз Хрыста" – натхняе ўсё вашае жыццё і вашу манаскую дзейнасць. Любоў да Хрыста, прысутнага ў Эўхарыстыі, і добры прыклад вашых сясцёр, малітва, праца і ахвярнасць паказваюць парафіянам вялікую пашану да Каталіцкага Касцёла і заахвочваюць стаць сапраўднымі вернікамі".

Апостальскі нунцый шчыра падзякаваў Пану за вельмі каштоўны дар існавання гэтай кангрэгацыі.

Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі ў віншаванні прыгадаў словы Папы Францішка, які параўноваў сясцёр законных з вясновым садам, дзе квітнеюць яблыні, дзе ёсць надзея і радасць для садоўніка, але таксама дзе ад спякотнага летняга сонца некаторыя кветкі гінуць і асыпаюцца. Але настае восень, і тады прыходзіць радасць, бо можна наталіць свой голад добрым плодам. "Сёння вы з'яўляецеся гэтым вясновым садам, гэтым квіценнем Касцёла ў Беларусі, былі і ёсць, бо гэты працэс адбываецца кожны раз, калі Бог кліча вас па імені, каб кожная пайшла за Ім, каб несла радасць, дзялілася верай і дарыла надзею".

*Працяг на стар. 12*

## Як зацікавіць моладзь? Трэба прапаноўваць альтэрнатыву! *Гутарка з душпастырам*



Стар. 7

## Арцыбіскуп Гуджэроці прызначаны легатам на ўрачыстасці ў Будславе



Стар. 2

## Грэка-католік – гэта свядомы выбар. Лікбез паводле беларускага ўніяцтва



Стар. 10

## У сучасным Касцёле адчуваецца вялікае запатрабаванне не столькі духавенства, колькі свецкіх



Стар. 6

## Чаму ўшанаванне Багародзіцы такое важнае для кожнага верніка?



Стар. 13

# Папа Францішак: “Міграцыя павінна быць свабодным выбарам чалавека!”


Помнік мігрантам і бежанцам на плошчы святога Пятра ў Ватыкане

**11 мая ў Ватыкане было абнародавана пасланне Папы Францішка на 109-ы Сусветны дзень мігранта і ўцекача, які будзе адзначацца 24 верасня. Яго сёлетняя тэма – “Свабодныя выбіраць: мігруваць або застацца”.**

Міграцыя заўсёды павінна быць свабодным выбарам чалавека, але ў вельмі многіх выпадках у нашыя дні яна не з’яўляецца такой. “Канфлікты, стыхійныя бедствы, праслей кажучы, немагчымасць годнага і забяспечанага жыцця на Радзіме вымушаюць мільёны людзей з’язджаць”, – падкрэсліў Пантыфік.

Папа Францішак заклікаў да сумесных намаганняў усёй міжнароднай супольнасці, каб забяспечыць справядлівае карыстанне агульным дабром, павагу да фундаментальных правоў і доступ да цэласнага чалавечага развіцця. “Толькі ідучы разам мы зможам пайсці далёка і дасягнуць супольнай мэты нашага падарожжа”, – напісаў ён.

Пантыфік перакананы, што кожнаму чалавеку павінна быць гарантаванае права не міграваць, гэта значыць, жыць у міры і годнасці ў сябе на Радзіме. Права, якое пакуль яшчэ не з’яўляецца кадыфікаваным, але мае фундаментальную важнасць.

“Пераслед, войны, атмасферныя з’явы і галеча знаходзяцца сярод найбольш відавочных прычын сучаснай міграцыі”, – заўважыў Папа, заклікаючы ў сувязі з гэтым “спыніць гонку ўзбраенняў, эканамічны каланіялізм, прагнасць чужых рэсурсаў, знішчэнне нашага супольнага дому”.

**Папа Рымскі звярнуўся ў першую чаргу да кіраўнікоў дзяржаў, адкуль мігруюць людзі, каб іх палітыка была добрай, празрыстай, сумленнай, дальнабачнай і служыла ўсім, асабліва найбольш неабароненым.**

У той жа час ён заклікаў дапамагчы гэтым краінам, каб яны не засталіся з разрабаванымі прыроднымі і чалавечымі рэсурсамі, не ўмешваўца ў іх унутраныя справы дзеля задавальнення інтарэсаў вузкіх колаў.

Святы Айцец нагадаў пра небяспеку феномену гандлю людзьмі, звязанага з вымушанай міграцыяй, а таксама падкрэсліў, што ў кожным мігранце трэба бачыць не толькі брата ці сястру, якія знаходзяцца ў цяжкай сітуацыі, але самога Хрыста, Каторы стукае ў нашы дзверы. Гэта павінна весці да “максімальнай павагі годнасці кожнага мігранта”.

Папа пажадаў таксама, каб Касцёл быў супольнасцю, гатовай прымаць, абараняць, падтрымліваць і інтэграваць усіх, не пакідаючы вонкі нікога. Ён завяршыў сваё пасланне малітвай да Бога, каб Госпад дапамог працаваць на карысць справядлівасці, салідарнасці і міру, каб усім Яго дзецям была гарантаваная свабода выбіраць: мігураваць ці застацца.

# Візіт Копцкага Патрыярха ў Ватыкан: 50 гадоў адносінаў і сяброўства


Тавадрас II і Францішак

**Агульная аўдыенцыя, якая прайшла 10 мая, прыняла незвычайны ход і звязлася да ўрачыстага прывітання Папам Францішкам Патрыярха Копцкай Праваслаўнай Царквы Тавадраса II.**

Іерархі – кожны асобна – блаславілі вернікаў. Так распачалося святкаванне пяцідзесяцігоддзя гістарычнай сустрэчы Паўла VI і Шэнуды III у маі 1973 года.

Копцкая Царква бярэ свой пачатак у ранняй Егіпецкай Царкве, заснавальнікам якой, паводле традыцыі, лічыцца святы Марк-евангеліст, каторы, як сцвярджаецца, прыняў пакутніцкую смерць у Александрыі ў 68 годзе. Хоць гістарычных доказаў гэтага няма, менавіта ад Марка копты вядуць адлік сваіх патрыярхаў.

Гэтая Царква адыграла вядучую ролю ў фарміраванні раннехрысціянскай тэалогіі. Сярод тых, хто прымаў актыўны ўдзел у яе дзейнасці, былі Афанасій Вялікі, Кірыл Александрыйскі, Арыген. Менавіта ў Егіпце зарадзіліся вялікія хрысціянскія ідэі, уключаючы манаства.

Сучасная Копцкая Праваслаўная Царква Егіпта – як гучыць яе афіцыйная назва – налічвае 8-12 мільёнаў вернікаў толькі ў Егіпце і каля 2 мільёнаў у дыяспары. Яе ўзначальвае Папа Афрыкі і Патрыярх Пасада святога Марка Тавадрас II.

Пад яго кіраўніцтвам Царква ўзяла новы, экуменічна адкрыты курс. Пасля ўступлення на пасад у 2013 годзе іерарх хутка і значна паспрыяў стварэнню Экуменічнай Рады Цэркваў у Егіпце, старшынёй якой ён з’яўляецца. У Раду ўвайшлі таксама Копцкая Каталіцкая Царква, пратэстанцкія супольнасці, у тым ліку англікане, і прадстаўнікі Грэцкай Праваслаўнай Царквы.

Вельмі значным для копцка-каталіцкіх адносін стаў той факт, што першая замежная паездка ў маі 2013 года прывяла Тавадраса II у Рым, дзе ён сустрэўся з Папам Францішкам. Паміж імі завязалася глыбокае асабістае сяброўства. Тады яны дамовіліся пра дзве рэчы: вырашылі маліцца адзін за аднаго кожны дзень і ўзялі на сябе абавязальніцтва адзначаць разам кожны год 10 мая свята хрысціянскай любові і сяброўства паміж Каталіцкім Касцёлам і Копцкай Царквой. Патрыярх таксама прызначыў на некалькі ключавых пасад у Копцкай Царкве адкрыта экуменічнае духавенства.

У Егіпце жывуць таксама каталікі лацінскага і некаторых усходніх абрадаў. Усяго іх больш за 250 тысяч. Найбольшай суполкай з’яўляюцца копты-католікі, іх – каля 220 тысяч. Копцкая Каталіцкая Царква сфарміравалася паступова ў выніку заключаных у розныя гады уній з Рымам. Яе з 2013 года ўзначальвае Патрыярх Александрыйскі Ібрагім Ісаак Сідрак. У апошнія гады гэта супольнасць характарызуецца высокім душпастырскім і грамадскім дынамізмам, які праяўляецца ў катэхізацыі і шматлікіх дабрачынных ініцыятывах. Яна прысутнічае ў сферы адукацыі, кіруючы 170 каталіцкімі школамі, у якіх большасць вучняў – мусульмане.

Іншыя ўсходнія каталіцкія супольнасці ў Егіпце – мелькіты, мараніты, сірыйцы, армяне і халдэі. Лацінскі Касцёл, які налічвае каля 10 тысяч вернікаў, дзейнічае ў рамках апостальскага вікарыяту Александрыі з сядзібай у Каіры.



# Арцыбіскуп Гуджэроці прызначаны легатам на ўрачыстасці ў Будславе

**Папа Францішак прызначыў арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці, прэфекта Дыкастэрыі па справах Усходніх Касцёлаў, сваім спецыяльны пасланнікам на ўрачыстасці 25-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Будслаўскай. Урачыстасці ў Будславе адбудуцца з 30 чэрвеня па 1 ліпеня 2023 года.**

Арцыбіскуп Гуджэроці не аднойчы наведваў Будслаў падчас свайго служэння ў якасці Апостальскага нунцыя ў Беларусі. Падчас святой Імшы ў беларускім Нацыянальным марыйным санктуарыі ў ліпені 2015 года ён заўважыў, што ў гэтым месцы Маці Божая чакае ўвесь народ. Яна “не чакае апладысментаў, не чакае моцы”, “Яна ціха чакае”, каб сказаць: “Мой сын, Мая дачка, Я тут, і Я тут для цябе”. У тыя часы, калі ўсё намагаліся знішчыць, Маці Божая заставалася ў Будславе, “чакаючы, калі народ вернецца да Яе”, – “і гэты дзень прыйшоў”, – падкрэсліў прадстаўнік Святога Айца.

Арцыбіскуп Гуджэроці будзе не першым папскім пасланнікам на ўрачыстасцях у Будславе. Раней у іх бралі ўдзел старшыня Папскай рады па міжрэлігійным дыялогу кардынал Жан-Луі Таран – у 2013 годзе з нагоды 400-годдзя з’яўлення цудатворнага абраза Багародзіцы ў Будславе – і арцыбіскуп Венскі кардынал Крыстаф Шонбарн у 2016 годзе з нагоды 25-годдзя заснавання Мінска-Магілёўскай Мітраполіі.

*Старонка падрыхтаваная па матэрыялах беларускай рэдакцыі Vatican News*

# Папа Франциск собирается посетить Аргентину в 2024 году

**Папа Франциск заявил, что хотел бы посетить Аргентину в 2024 году, поскольку не был на Родине все десять лет своего понтификата, дабы не влиять на политику страны.**

“Я хочу поехать в страну в следующем году, – заявил Папа в интервью аргентинскому журналисту Хоакину Моралесу Соле во время недавней частной аудиенции в Ватикане, после чего эти его слова появились в репортаже аргентинской ежедневной газета La Nacion. С момента своего избрания на Папский престол в 2013 году Папа Франциск ни разу не побывал на Родине, в Аргентине.

В интервью La Nacion он объяснил, что поездка в Аргентину была запланирована на 2017 год, однако ее пришлось отложить из-за выборов. Папы Римские по сложившейся традиции не посещают страны в годы выборов и других ответственных моментов в истории, дабы не создавать впечатления о попытках как-то влиять на подобные политические события. “Другими словами, предварительно ничто не мешало поездке, она была запланирована, – отметил понтифик. – Позже, однако, в планы вмешались разные непредвиденные обстоятельства и сложности. Так, случился перерыв на два года из-за пандемии, за ним последовали неотложные поездки в такие места, которые не всем понятны со стороны. И даже возникал вопрос: “Зачем он туда отправился?”, а просто нельзя было не поехать. Вот так и сложилось, что Аргентина все еще ждет. Я хочу приехать, я надеюсь приехать”.



В беседе с Моралесом Солой впервые прозвучало заявление Папы Римского о возможной дате поездки в Аргентину.

*Сибирская католическая газета*



# Рукописную Библию начали создавать в Румынии

**В румынском городе Тимишоара началось создание самой большой в стране рукописной Библии. Начало реализации проекта совместили с открытием передвижной выставки Музея Библии, насчитывающей более 1100 экземпляров на сотнях языков из разных исторических периодов.**

Инициатива воспроизвести Священное Писание в рукописном формате принадлежит баптистскому пастору Ионелу Туцаку. “С помощью этого проекта я хотел напомнить жителям Тимишоары и всем румынам, что Библия не должна быть музейным экспонатом”, – сказал он.

Первый библейский стих более чем из 31 тыс. начертал в фолианте размером 90 на 60 см архиепископ Тимишоарский и митрополит Банатский Иоанн. В дальнейшем писать Библию будут в разных церквях, школах, университетах по всей Румынии.

На выставке были представлены уникальные издания, такие как копия Библии, доставленная на Луну астронавтом Эдгаром Митчеллом на борту космического корабля “Аполлон-14”, страница из второй Библии, напечатанной в 1475 году, а также самая маленькая в мире Библия, которую можно читать только под микроскопом.

*Благовест Инфо*

# Явления Богородицы: как защитить верующих от обмана

**Мультидисциплинарность, защита уязвимых лиц и просвещение – таковы основные задачи нового органа, учрежденного при Папской международной богородичной академии, – Центра мониторинга явлений и мистических феноменов, связанных с Пресвятой Девой Марией. О его целях рассказала директор научного комитета новообразованного центра сестра Даниела Дель Гаудио.**

В анализ предполагаемых мистических феноменов, связанных с Девой Марией, будут вовлечены богословие, медицина, коммуникация и право. Особое внимание будет уделяться обучению пастырских работников и работников СМИ, а также помощи наиболее уязвимым, то есть тем, кто может с легкостью стать жертвой обмана в этой сфере.

В одной только Италии за последние десятилетия тысячи людей сообщали о частных откровениях Пресвятой Девы Марии, и лишь немногие из них получили признание Церкви. “Наша цель, – пояснила сестра Дель Гаудио, – помочь сформировать критическое суждение”. Явления Богородицы, безусловно, благотворно влияют на нашу христианскую жизнь, отметила монахиня, однако существует также народное благочестие, которое зиждется на заблуждениях и не имеет библейского и экклесиологического основания. Поэтому необходимо уберечь людей от мошенников, от обмана и от попыток вовлечь их в зависимость, поскольку предполагаемые ясновидящие под предлогом посланий от Бога и от Божьей Матери могут практически поработить тех, кто больше всего уязвим с этой точки зрения. Новый центр будет оказывать помощь священнослужителям и пастырским работникам, с тем чтобы они самостоятельно могли отличать подлинные явления от мнимых.

“Как правило, – рассказала сестра-монахиня, – ясновидящие – это простые, смиренные люди, ведь это способствует передаче послания”. Дело в том, пояснила директор научного комитета по распознаванию истинных явлений Богородицы, что взрослые и образованные люди “перерабатывают” послание, в то время как, например, ребенок воспринимает его таким, как оно представлено, и это может быть гарантией достоверности, как в случае Бернадетты в Лурде. Наличие какой-то выгоды не исключает подлинности сверхъестественных феноменов: достаточно вспомнить, что через некоторых святых совершались чудеса, благодаря которым они помогали людям в конкретных нуждах, например, насыщали голодных. Они делали это “с великим смирением, изумляясь благости Бога, вмешивающегося столь необычайным образом”.



Центр мониторинга, отметила далее его представитель, не намерен заменять собой епархиальные комиссии и суждения епископов, на которых возложена обязанность публикации итогового заключения.

Сотрудники центра собирают данные и исследования по явлениям Богородицы во всем мире. В планах центра – создание единой базы данных и организация мониторинга на национальных уровнях. Центр мониторинга не будет общаться с самими ясновидящими до тех пор, пока не завершится епархиальное расследование.

***Ольга Сакун,*** *Vatican News*



# В Южной Корее возросла численность католиков

**В Южной Корее численность католиков несколько возросла и достигла 11,3% населения страны.**

На днях Конференция католических епископов Кореи опубликовала свой очередной ежегодник “Статистика Корейской Католической Церкви за 2022 год”, который представляет данные на 31 декабря 2022 года. Статистика собрана с помощью переписи, консультаций с приходами, мужскими и женскими религиозными ассоциациями и конгрегациями, учебными заведениями, благотворительными и пастырскими учреждениями. Помимо статистики, Корейский католический институт пастырских исследований Конференции католических епископов дополнил сборник анализом тенденций и прогнозом “присутствия Католической Церкви и ее учреждений в корейском обществе”.

Численность корейских католиков в 16 епархиях страны, по этим данным на декабрь 2022 года, составила 5 949 862 человека, что на 0,2% (11 817 человек) больше, чем годом ранее. Доля верующих католиков в общей численности населения Кореи (52 628 623 человека) достигла 11,3%. В сравнении с 2021 годом общее население страны сократилось на 104 077 человек, а численность католиков при этом увеличилась.

Количество католических священников также несколько увеличилась, а численность монашествующих сократилась.

Среди мирян мужское и женское католическое население составляет 42,9% (2 551 589 человек) и 57,1% (3 398 273 человек) соответственно. Доля пожилых верующих в возрасте 65 лет и старше достигает 26,4%. Подсчитано также, что 55,9% (3 326 925 человек) католического населения страны проживает в крупных городах (Сеул, Инчхон, Сувон и Уиджонбу). В стране насчитывается 1784 приходов, что на пять больше, чем в предыдущем году. В настоящее время численность церковных организаций достигла 173 за счет двух новых женских монашеских орденов, учрежденных за год.

***Благовест Инфо***

# Крыж у Сароках

**Аднойчы на польскім інтэрнэт-аўкцыёне Allegro я заўважыў вокладку часопіса “Tygodnik Ilustrowany” за 1934 год. На вокладцы быў фотаздымак драўлянага крыжа з фігурай распятага Хрыста. Крыж, як бачна, пакрыты чатырохскатнай стрэшкай, якая амаль рассыпалася ад старасці. Фота падпісанае так: “Прыдарожны крыж у Дзісненскім павеце”. Больш ніякай інфармацыі. Ці можна разгадаць, у якім месцы стаяў гэты крыж? Як аказалася, можна. На фотаздымак трапіў вугал мураванай капліцы, які падаўся мне дужа знаёмым. Ці не капліца на могілках у Сароках гэта, міма якой я дзясяткі разоў праязджаў дарогай Глыбокае – Докшыцы?**



Крыж у Сароках.
*Фота Б. Жыўно, 30-я гг. ХХ ст.*



Крыж каля вёскі Заваратy, Глыбоцкі раён.
*Фота аўтара*

На сайце Музея Вармії і Мазур у польскім Ольштыне ёсць раздзел са здымкамі з сямейных архіваў перасяленцаў з Заходняй Беларусі. Там сярод здымкаў з архіва Міраславы Александровіч знайшлося фота могілак у Сароках, якое зробленае з глыбіні, з сярэдзіны. Калі я прыгледзеўся да гэтага фота, то ўбачыў: драўляны крыж з рэшткамі чатырохскатнай стрэшкі сапраўды стаяў каля капліцы.

Чым гэты крыж цікавы? Гэта адзін са шматлікіх прыкладаў народнага рэлігійнага мастацтва. Магнаты будавалі і ўпрыгожвалі касцёлы, наймаючы прафесійных майстроў нямецкага і італьянскага паходжання. А дробная шляхта і сяляне ў сваім жаданні ўшанаваць Бога ставілі каля сваіх вёсак і засценкаў, на вясковых могілках крыжы і каплічкі. Былі майстры, якія ўпрыгожвалі гэтыя крыжы і каплічкі скульптурамі і разьбой.

Чатырохскатная стрэшка на крыжы мела за мэту засланяць ад дажджу і снегу фігуру распятага Хрыста. Сёння такі крыж можа выклікаць здзіўленне праз сваю нетыповасць, нетрадыцыйнасць. Але даўней такія крыжы былі якраз тыповыя для нашага рэгіёна. У кнізе бернардына Элеўтэрыя Зеляевіча “Звярынец нябесны на зямлі”, выдадзенай у 1650 годзе, ёсць гравюра, якая ў спрошчанай форме прадстаўляе Будслаў і яго ваколіцы. Калі прыглядзецца да дэталяў гравюры, то можна ўбачыць тры такія крыжы. Гэта сведчыць, што яны былі распаўсюджанымі ў нашым рэгіёне. Да сённяшняга дня можна ўбачыць падобныя крыжы каля вёсак Завараты і Сакавічы Глыбоцкага раёна, у вёсцы Віржы Докшыцкага раёна. У Заваратах на крыжы змешчаная цэлая мастацкая кампазіцыя: каля фігуры распятага Хрыста кленчаць Панна Марыя і Апостал Ян, а побач знаходзяцца фігуркі галубоў і анёлаў. У Віржах на крыжы змешчаныя выявы прыладаў, якія звязаныя з укрыжаваннем Хрыста: малаток і драбіна.

Ёсць такія крыжы ў некалькіх мясцовасцях Мядзельскага і Вілейскага раёнаў. Калісьці крыж з падобнай стрэшкай стаяў у вёсцы Вешняе Докшыцкага раёна. Агулам можна сказаць, што такая форма крыжоў была найбольш распаўсюджаная на ўсход ад Вільні – на адлегласць да 200 кіламетраў ад колішняй нашай палітычнай і рэлігійнай сталіцы.

У Літве вясковыя драўляныя крыжы прызнаныя часткай нацыянальнай спадчыны, іх вывучаюць, ахоўваюць, яны ўнесеныя ў спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЭСКА. У Польшчы, асабліва ў яе ўсходняй частцы, на Падляшшы, прыдарожныя крыжы і капліцкі таксама сталі аб'ектам вывучэння і аховы. Мы, беларусы, пакуль што не ўсведамляем каштоўнасць гэтай спадчыны. А чаму гэта важна ўсведамляць? Кожны народ выяўляе сваё імкненне да дабра, да прыгажосці і да Бога ў непаўторнай форме. Мастацкая выява сведчыць пра адметнасць нашай культуры, а паказаная ў ёй праўда пра ахвяру Хрыста, Які памёр на крыжы, узяўшы на сябе нашыя грахі, яднае нас з іншымі хрысціянскімі народамі. Рэлігійнае мастацтва выразна паказвае, у Каго верылі і на Каго спадзяваліся нашыя продкі, і якімі ёсць карані нашага народа.

***Кастусь Шыталь***



Крыж у ваколіцах Докшыц,
*малюнак Караля Біскэ, каля 1918 года.*

## Святло вечнае няхай Яму свеціць...

**Вось ужо адзінаццаць гадоў мінула, як закончыў свой зямны шлях ксёндз Уладас Пятрайціс.**

З 1985 г. па 2000 г. ён быў пробашчам, а пазней і дэканам мёрскага касцёла. Пры ім на ахвяраванні вернікаў каля касцёла быў пастаўлены адзіны ў Еўропе помнік ненароджанаму дзіцяці. У 1998 годзе таксама на ахвяраванні вернікаў устанавілі манументальную скульптуру Маці Божай з Дзіцяткам Езусам. На новых парафіяльных могілках ў Мёрах пабудавалі капліцу. Нястомна займаўся айцец Уладас адраджэннем касцёла ў Лявонпалі.

Ксёндз быў таленавітым пастырам з моцнай верай і надзеяй, які не шкадаваў сябе для іншых. І так было да апошняй хвіліны жыцця.

Ён вельмі любіў людзей. І старым, і малым, і здаровым, і хворым удзяляў належную ўвагу, для кожнага знаходзіў добрае, чулае, ласкавае слова, умеў у складаных сітуацыях абнадзеіць і падтрымаць. Усё сваё вялікае, поўнае любові сэрца, усяго сябе ён аддаваў людзям.

Ксёндз Уладас Пятрайціс запомніўся як вельмі інтэлігентны чалавек, які ставіўся да парафіян з глыбокай павагай. Быў вельмі пунктуальным, застаўся ў памяці самым цікавым суразмоўцам. Ён шмат расказваў пра сэнс жыцця, пра рэлігію, гісторыю, пра прыгажосць ва ўсіх яе праявах. З ім было проста, цікава размаўляць. Можна было звярнуцца з любым пытаннем, ён заўсёды нешта падкажа, растлумачыць. Увесь час хадзіў з усмешкай, нягледзячы на розныя акалічнасці. Гэта моцна падтрымлівала. Ксёндз заўсёды казаў: “Тое, што Бог даў, мы павінны прыняць і перажыць”.



Па калядзе хадзіў у аддаленыя вёскі. Размовы з ім былі доўгія, прысвечаныя рэлігіі і жыццю. Пасля іх станавілася спакойна на душы і ўтульна ў доме.

Літовец па нацыянальнасці, ён настолькі любіў Беларусь, што многім варта было б павучыцца ў яго. Ён любіў нашу краіну, нашу Мёршчыну, жыў гэтым касцёлам.

Святы і ўрачыстасці ў касцёле запомніліся многім назаўсёды. Казанні ксяндза Уладаса, простыя, душэўныя, даходзілі да самага сэрца. Памяць пра ксяндза Уладаса Пятрайціса застаецца ў справах, ва ўсім тым, што ён зрабіў. Столькі споведзяў, столькі святых Камуній, столькі пілігрымаў прыняў, столькі працы ўклаў у аднаўленне мёрскага касцёла, а яшчэ больш – у аднаўленне душаў тых людзей, якія прыходзілі сюды!..

Ксёндз Уладас Пятрайціс быў добра вядомы сваёй актыўнасцю. Дзе б ён ні служыў, паўсюль будаваў, рэстаўраваў святыні, з ім кіпела парафіяльнае жыццё.

Святло зямнога жыцця ксяндза Уладаса згасла адзінаццаць гадоў таму назад, але мы верым, што бясконцае святло свеціць над яго абліччам.

Жывымі ніткамі ўспамінаў мы звязаныя з людзьмі, якія пайшлі ад нас. Ксёндз Уладас Пятрайціс памятаецца таленавітым, з высокай асабістай культурай Пастырам, добрым, уважлівым, спагадным Чалавекам. І заўсёды застанецца такім! У памяці. У сэрцах. У малітвах.

***Ад імя вернікаў,***
***Алена Сакалоўская***

# Нямецкі "шлях" Каталіцкага Касцёла... Ці прывядзе ён да расколу?

**Напачатку сакавіка гучнай навіной прайшло паведамленне пра тое, што Каталіцкі Касцёл у Германіі будзе бласлаўляць аднаполыя шлюбы. У гэтым тэксце мы спрабуем разабрацца ў тым, як да такіх рашэнняў дайшлі нямецкія католікі і як да гэтага ставяцца ў Ватыкане.**



Станам на канец 2021 года 26% жыхароў Германіі, або 21,6 млн чалавек, былі католікамі. Пры гэтым доля тых, хто наведвае нядзельную Імшу, рэгулярна скарачалася: у 2009 годзе, напрыклад, яна складала толькі 13%.

Разам з тым дзяржава абавязвае ўсіх зарэгістраваных вернікаў плаціць падатак у 8-9% свайго даходу на Касцёл, незалежна ад таго, ці наведваюць яны набажэнствы. Гэта зрабіла Касцёл Германіі адным з самых багатых у свеце. Але адначасова паставіла перад ім цяжкае пытанне: як утрымаць зарэгістраваных вернікаў (то бок – падаткаплатнікаў). Напрыклад, толькі за 2019 год сышло 216 тыс. вернікаў і яшчэ 402 тыс. у 2020-м. Агулам, паводле апытанняў, на такі крок гатовыя да трэціны нямецкіх католікаў, у тым ліку дзеля таго, каб не плаціць падатак.

Погляды ж тых, хто працягвае яго плаціць, досыць спецыфічныя. Апытанне 2021 года паказала, што 70% нямецкіх католікаў ухваляюць бласлаўленне аднаполых пар, 80% прымаюць сумеснае жыццё нежанатых пар і 85% лічаць неабходным дазволіць браць шлюб святарам.

**Нямецкія рэформы**

На гэтым фоне ў 2019 годзе нямецкі Касцёл запусціў "Сінадальны шлях" – серыю канферэнцый для абмеркавання шэрагу сучасных багаслоўскіх і арганізацыйных пытанняў. Кіруе "Сінадальным шляхам" Сінадальная асамблея, куды ўваходзяць як біскупы, прадстаўнікі законных супольнасцяў, гэтак і свецкія з Цэнтральнага камітэта нямецкіх католікаў. Апошнія яшчэ ў 2015 годзе прагаласавалі за бласлаўленне аднаполых саюзаў.

Першыя рашэнні "Сінадальнага шляху" былі агучаныя ў лютым 2022 годзе. Большасць прысутных, некаторыя з якіх выставілі сцягі ЛГБТ, падтрымалі наступныя прапановы:

- Ватыкан мусіць дазволіць пасвячэнне жанчын;
- Уплыў свецкіх на абранне біскупаў павінен быць большым;
- Гомасэксуальныя саюзы могуць прайсці публічную цырымонію блаславення;
- Варта рэфармаваць вучэнне Катэхізісу, каб перастаць класіфікаваць гомасэксуальныя палавыя акты як грахоўныя паводзіны;
- Варта дазволіць святарам жаніцца.

У лістападзе 2022 года Касцёл Германіі дазволіў біскупам і ксяндзам заяўляць пра сваю гомасэксуальнасць. А ў касцельных установах цяпер могуць працаваць тыя, хто заключыў аднаполыя саюзы. Таксама не пазней за сакавік 2026 года плануецца заснаваць з удзелам свецкіх Раду Сінода, якая б, як і ў выпадку з Лютэранскай царквой, фактычна кіравала б дыяцэзіяй замест біскупа.

У сакавіку 2023 года "Сінадальны шлях" ухваліў бласлаўленне аднаполых саюзаў, казанне свецкіх, "канкрэтнае паляпшэнне для інтэрсэкс- і трансгендарных вернікаў" і просьбы перагледзець бясшлюбнасць духавенства. Увядзенне адаптаванай літургіі для бласлаўлення аднаполых пар падтрымалі 93% удзельнікаў форуму, у тым ліку каля 38 нямецкіх біскупаў. 12 біскупаў устрымаліся і толькі 9 былі супраць. Намеснік старшыні нямецкага епіскапату біскуп Франц-Ёзэф Бодэ нават запрасіў вернікаў сваёй дыяцэзіі звяртацца ў парафіі па літургічнае блаславенне іх аднаполых партнёрстваў. Таксама "Сінадальны шлях" назваў неміласэрнай і дыскрымінацыйнай адмову бласлаўляць аднаполыя партнёрствы, бо, маўляў, яна не можа быць "пераканаўча абгрунтаванаю ў тэалагічным плане".

Падобнымі былі вынікі "Сінадальных шляхоў" у Аўстрыі, Нідэрландах і Швейцарыі. Віталі рашэнне нямецкіх калегаў і некаторыя біскупы з-за мяжы, як, напрыклад, Эрыё Кастэлучы з Італіі.

**Аднабаковасць і зацыкленасць**

Тым не менш, казаць пра поўнае аднадумства ў згаданых пытаннях сярод нямецкіх католікаў не даводзіцца. Гэтак, яшчэ на самым пачатку ад пасадаў у Сінадальных форумах адмовіліся багаслоў Мар'яна Шлосэр і біскуп Дамінік Швадэрлап, якія былі нязгодныя з "зацыкленасцю на пасвячэнні" жанчын і поглядамі на сэксуальную мараль, што супярэчаць вучэнню Касцёла. А біскуп Рэгенсбурга Рудольф Водэрхальцэр у адкрытым лісце раскрытыкаваў сам механізм працы "Сінадальнага шляху" і яго "аднабаковае біблейскае багаслоўе".

Біскуп Штэфан Остэр з Пасаў заяўляў, што на пасяджэнні "Сінадальнага шляху" "ніхто" з меншасці не адчуваў сябе "абароненым", а "галоўныя дзейныя асобы ў прэзідыуме" пастаянна фармулявалі патрабаванні і чаканні рэформ. Некаторыя біскупы прапаноўвалі вярнуцца да таемнага галасавання, бо адчувалі ціск з боку большасці, але прэзідыум адхіліў іх просьбу.

"Братэрскую заклапочанасць" выказалі польскі епіскапат і Канферэнцыя біскупаў Скандынавіі. А чатыры кардыналы і больш як 80 біскупаў напісалі "братэрскі адкрыты ліст", у якім выказалі занепакоенасць, што нямецкі "Сінадальны шлях" можа падарваць аўтарытэт і лідарства Касцёла.

**Ватыкан супраць**

З крытыкай нямецкіх новаўвядзенняў выступіў і Ватыкан. Яшчэ ўлетку 2019 года Папа Францішак у 28-старонкавым лісце заявіў пра "эрозію" і "падзенне веры" ў Германіі і заклікаў вернікаў да навяртання, да малітвы і посту. На думку Святога Айца, удзельнікам "Сінадальнага шляху" не хапае Святога Духа.

У верасні 2019 года кардынал Марк Уэле, прэфект Дыкастэрыі па справах біскупаў, у лісце да Канферэнцыі нямецкіх біскупаў заявіў, што арганізацыйная структура "Сінадальнага шляху" несапраўдная і не можа прымаць абавязковых для выканання рашэнняў. 21 ліпеня 2022 года Святы Пасад нават абнародаваў адмысловую дэкларацыю, дзе заявіў, што "Сінадальны шлях" у Германіі "не мае паўнамоцтваў абавязваць біскупаў і вернікаў прымаць новыя спосабы кіравання і новыя ўстаноўкі дактрыны і маралі". Тое ж самае Ватыкан паўтарыў і ў студзені 2023 года.

Аўстралійскі кардынал Джордж Пэл, былы прэфект Сакратарыята па эканамічных пытаннях, у артыкуле на сайце National Catholic Register увогуле заявіў, што ў гісторыі Касцёла не было "прэцэдэнтаў актыўнага ўдзелу былых католікаў і антыкатолікаў у такіх арганізацыях".

24 лістапада 2022 года свае крытычныя заўвагі апублікавалі кардынал Уэле і кардынал Луіс Ладарыя Ферэр, прэфект Дыкастэрыі веравучэння. Яны заявілі, што нямецкія католікі ідуць на "саступкі" ва ўмовах "вельмі моцнага культурнага і медыйнага ціску". А самі прапановы "адкрыта супярэчаць вучэнню, зацверджанаму ўсімі папамі з часоў Другога Ватыканскага Сусветнага Сабору".

У кастрычніку і лістападзе 2022 года нямецкія біскупы з адмысловымі візітамі наведвалі Рым. Але, як заяўляў кардынал Курт Кох, старшыня Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству, яны не вядуць дыялог з Рымам, а толькі абараняюцца. Агулам жа, паводле яго, Святы Айцец і нямецкія біскупы разумеюць пад "Сінадальным шляхам" "два розныя падыходы". Калі для Папы "сінадальнасць" з'яўляецца "духоўнай падзеяй", што мусіць служыць евангелізацыі, то ў Германіі – "гэта гаворка пра структуры".

Неаднаразова выказваў заклапочанасць "Сінадальным шляхам" і Апостальскі нунцый у Германіі арцыбіскуп Нікола Этэравіч. У прыватнасці, ён нагадваў пра перасцярогу Францішка аб небяспецы "парламентарызму" для Касцёла і заклікаў да таемнага галасавання. Падкрэсліваў ён і немагчымасць стварэння "Сінадальнай рады" ды допуску жанчын да святарства. У сваю чаргу прэфект Дыкастэрыі Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў кардынал Артур Рошэ адзначыў недапушчальнасць таго, каб свецкія рэгулярна прамаўлялі гамілії падчас святых Імшаў ці ўдзялялі сакрамант хросту.

**Раскол рэальны?**

І хоць старшыня нямецкага епіскапату біскуп Георг Бетцынг заяўляе, што "Сінадальны шлях" Касцёла ў Германіі "не шукае расколу і не вядзе да нацыянальнай царквы", шмат хто прытрымліваецца іншай думкі.

Так, кардынал Марк Уэле заявіў, што нямецкі "Сінадальны шлях" выклікае падзелы як у Касцёле, так і паміж біскупамі, сее замяшанне сярод народа Божага. А Луіс Ладарыя Фэрэр па выніках візіту ad limina нямецкіх біскупаў у Рым увогуле заявіў, што нямецкія католікі не адчуваюць сваёй прыналежнасці да Паўсюднага Касцёла.

"У Германіі ўжо ёсць вялікая і цудоўная Лютэранская Царква. Я не хачу іншай, якая не стане такой жа добрай, як гэта. Але я хачу, каб быў Каталіцкі Касцёл, які б жыў у братэрстве з Лютэранскай Царквой", – сказаў Папа 6 лістапада 2022 года і перасцярог ад "этыкі, замаскіраванай пад хрысціянства".

На яго думку, "Сінадальны шлях" у Германіі небяспечна ідэалагізаваны, ім кіруюць "эліты", і ён не заахвочвае "увесь Божы народ".

Былы старшыня Папскай рады спрыяння хрысціянскаму адзінству нямецкі кардынал Вальтэр Каспер мяркуе, што нямецкія сінадалы не хочуць касцельнага расколу, але, папярэдзіў ён, да такой сітуацыі можа дайсці. Кардынал заклікаў нямецкіх біскупаў сур'ёзна паставіцца да просьбаў іншых біскупскіх канферэнцый на тэму нямецкага шляху.

"Касцёл – гэта не дэмакратыя", – сказаў ён. Нельга "вынаходзіць" новы Касцёл. Пры гэтым кардынал прызнаў, што "Касцёл перажывае эпахальнае ўзрушэнне" і "не можна проста жыць, як раней".

Як мяркуе старшыня Папскай акадэміі святога Тамаша айцец Серж-Тама Баніно, "Сінадальны шлях" у Германіі выкрыў глыбокія падзелы і стварыў рызыку вялікага расколу. На яго думку, атака на папскую энцыкліку Humanae vitae і вучэнне Яна Паўла II аб фундаментальных маральных і біяэтычных пытаннях, радыкальны выклік традыцыйнаму вучэнню Касцёла аб гомасэксуалізме ці святарстве можа прывесці да таго, што частка тэолагаў і вернікаў не зможа пагадзіцца на такія змены. Яны б азначалі сапраўдны разрыў з традыцыяй і стваралі б уражанне, што Касцёл памыляўся стагоддзямі.

Старшыня Папскай акадэміі адзначыў, што каталіцкая тэалогія павінна распазнаваць знакі часу, але ў тым, што адбываецца ў межах нямецкай рэфарматарскай ініцыятывы, цяжка ўбачыць, дзе мы маем справу з падпарадкаваннем духу свету, а дзе з сапраўдным жаданнем слухаць Духа Святога.

***Мечыслаў Гапановіч***

Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (146)
май 2023 г.

# У нашым сучасным Касцёле адчуваецца вялікае запатрабаванне не столькі духавенства, колькі свецкіх

**Нягледзячы на вялізныя прасторы Палесся, Пінская дыяцэзія застаецца найменшай беларускай дыяцэзіяй па колькасці духоўных асобаў. Гэты ландшафт па-свойму фармуе мясцовы Касцёл. Працягваючы серыю размоваў, прысвечаных Году свецкіх у Касцёле ў Беларусі, сёння мы пагутарым з пінскім канцлерам кс. Андрэем Рылкам. Пра тэорыю і практыку ўключэння свецкіх, двухкласавую касцельную сістэму "святароў" і "вернікаў" ды смерць т.зв. "традыцыйнага грамадства".**

**– Вы ўжо амаль дзесяць гадоў з'яўляецеся канцлерам курыі Пінскай дыяцэзіі. Азіраючыся назад, як выбудоўваліся прыярытэты супрацы са свецкімі, іх актывізацыі ў Касцёле? Якімі дасягненнямі ў гэтым плане Вы ганарыцеся?**

– Так, сапраўды, дзесяць гадоў працы ў курыі ў такім своеасаблівым і тэрытарыяльна велізарным рэгіёне, як Палессе, – гэта бясцэнны досвед для мяне. Азіраючыся назад, разумею, што Бог у пэўным сэнсе даў мне ласку падрыхтавацца да гэтай адказнай місіі: дапамагаць біскупу ў яго служэнні як супольнасці Касцёла, так і ва ўзаемадзеянні з па-за касцельным асяроддзем.

Перадусім такой падрыхтоўкай для мяне была рэалізацыя задумы кардынала Казіміра Свёнтка на пачатку 2000-х: дзяржаўная рэгістрацыя і афіцыйнае адкрыццё першай у Беларусі каталіцкай тэалагічнай навучальнай установы для свецкіх. Рэалізацыя гэтай ідэі заняла некалькі гадоў. Для мяне гэта быў цудоўны час і велізарны досвед супрацы са шматлікімі свецкімі асобамі.

Калі ў 2013 г. мне была даручана місія працы ў дыяцэзіяльнай курыі, то, зыходзячы з папярэдняга досведу працы ў катэхетычным каледжы, я ўсведамляў, як шмат залежыць ад кантактаў са свецкімі асобамі. Тым больш што Касцёл на велізарных прасторах Палесся ўвесь час адчувае значны недахоп духавенства.

Азіраючыся на пройдзены за дзесяць гадоў шлях супрацы са свецкімі ў курыі, застаецца толькі дзякаваць Богу за ўсё тое, што ўдалося зрабіць. Гэтыя гады паказалі мне, як важна быць адкрытым на дзеянне Духа Святога, на час, месца і асобаў, якіх Ён дае тут і цяпер, на канкрэтную місію, дзеля здзяйснення Яго збаўчых задумаў. Я шчаслівы, што мог шмат чаму навучыцца ў кардынала Казіміра Свёнтка і біскупа Антонія Дзям'янкі, назіраючы, як яны паспяхова супрацоўнічаюць са свецкімі асобамі.

**– Магчыма, ёсць нейкія падыходы ў працы са свецкімі, якія не спраўдзіліся на практыцы?**

– Так. У першую чаргу, гэта складанасці ў адказе на чаканні тых, з кім даводзіцца працаваць. Розныя свецкія асобы, якія прапаноўваюць нам сваю дапамогу і працу, прыходзяць са сваімі чаканнямі і спадзяваннямі. Адныя думаюць, што Касцёл багаты, і яны змогуць тут зарабіць грошы. Іншыя – што тут можна знайсці "ціхую гавань" ва ўцёках ад нейкіх віхураў свайго жыцця. Ёсць такія, якія не змаглі рэалізавацца ў іншых месцах і прыходзяць да нас, каб хоць куды-небудзь уладкавацца. І калі пачынаецца рэальная праца, дзе неабходна хутка рэагаваць на розныя сітуацыі, можа нарастаць настолькі сур'ёзны канфлікт паміж чаканнямі і рэальнасцю, што асоба пагружаецца ў крызіс унутранага канфлікту. Таму лічу, што важным чыннікам для нас з'яўляецца распазнаванне чаканняў тых, хто жадае прыйсці да нас на працу, каб на пачатковым этапе дзейнасці дапасаваць іх спадзяванні да рэальнай сітуацыі.

Касцёл – гэта людзі. А там дзе людзі, усё вельмі неадназначна і вірліва. Адэкватнае распазнаванне чаканняў і жаданняў у служэнні Богу і людзям можа ўратаваць і саму асобу, і супольнасць Касцёла ад многіх клопатаў.

**– Ці сочыце Вы за сінадальным працэсам у Касцёле? Што думаеце на гэты конт?**

– Так, я вельмі ўдзячны Божаму Провіду і Папу Францішку, што ён ініцыяваў гэты шырокі працэс Сіноду аб ролі свецкіх у Касцёле. Прымаючы ўдзел у правядзенні першапачатковага сінадальнага этапу ў Пінскай дыяцэзіі, я яшчэ раз пераканаўся, наколькі важны дыялог, узаемнае слуханне і шчыры пошук рэальнага дабра.

**– Як Вы ацэньваеце падсумаванне дыяцэзіяльнага этапу сіноду біскупаў у Беларусі?**

– Ацэньваю вельмі пазітыўна. Сам факт яго правядзення, збор і апрацоўка вялікага аб'ёму зваротнай інфармацыі ад духавенства, свецкіх вернікаў і зусім далёкіх ад Касцёла людзей – гэта вельмі важна і каштоўна. Мне даводзілася ўдзельнічаць як у працы дыяцэзіяльнага этапу, так і ў апрацоўцы сінадальных апытанняў, таму ведаю, што людзі былі шчырымі і дзяліліся глыбокімі меркаваннямі. Гэта бясцэнны скарб!

**– Якія вынікі Вам падаліся найбольш цікавымі?**

– Мяне вельмі захапіла тое, як шмат асобаў дзялілася сваімі перажываннямі пра неабходнасць клопату пра людзей з асаблівасцямі і абмежаваннямі. Некаторыя нават у сінадальных апытанках прапаноўвалі ўжо гатовыя ініцыятывы па актывізацыі душпастырства для людзей, якія патрабуюць асаблівай апекі. Гэта цешыць і сведчыць пра сталасць грамадства.

**– Ці былі моманты, якія Вас асабіста засмуцілі?**

– Так. Нягледзячы на маю асабістую вельмі пазітыўную ацэнку вынікаў сінадальнага этапу, ёсць, вядома, моманты, якія змушаюць задумацца над праблемамі. Перш за ўсё, гэта вельмі высокія чаканні свецкіх адносна духавенства. Пры гэтым складваецца ўражанне, што духавенства часта разглядаецца некаторымі асобамі як нешта абсалютна незалежнае ад свецкіх вернікаў. А рэальнасць такая, што добры святар нараджаецца ў добрай сям'і ад добрых бацькоў. Таму трэба спачатку мець здаровыя сфармаваныя сем'і, якія закладуць духоўна-псіхалагічны асабовы падмурак іх сына, якога Бог пакліча да святарства.

Праблема заўсёды комплексная. Усё ўзаемазвязана і ўзаемазалежна. У нашым сучасным Касцёле адчуваецца вялікае запатрабаванне не столькі духавенства, колькі свецкіх, якія не будуць перакідваць усе матэрыяльныя клопаты парафіі на святара. Таксама біскупам вельмі патрэбныя адкрытыя да супрацы прафесійныя свецкія юрысты-вернікі, эканамісты, менеджары і г.д. Праўда ў тым, што маштабы ўдзелу свецкіх вернікаў у жыцці Касцёла залежаць і ад духавенства, і ад свецкіх. Сведчанне жыцця і актыўнасць тых жа свецкіх вернікаў можа пераканаць душпастыра, што ён мае магчымасць упэўнена на іх абапірацца, і яны не падвядуць ні яго, ні супольнасць Касцёла.

**– "Часта вернікі з павагі да святара не могуць яму пярэчыць нават тады, калі ён, верагодна, памыляецца," – пішацца ў справаздачы. Што рабіць з такой сітуацыяй?**

– Адна з найважнейшых справаў, якой усім нам неабходна вучыцца ўсё жыццё, – гэта адкрытасць на шчыры дыялог. Па сутнасці, цяперашні сінадальны працэс – гэта вялікі заклік Касцёла да шчырага дыялогу ўсіх з усімі, без выключэнняў. Калі свецкі вернік упэўнены, што святар робіць нешта памылковае, то неабходна дзейнічаць так, як звычайна мы паступаем з асобамі, дзеянні каторых мы не разумеем або яны здаюцца (!) нам няправільнымі. Спачатку ў духу любові неабходна папрасіць асобу растлумачыць, што значаць яе такія дзеянні, бо мы шчыра жадаем іх зразумець. Калі адваротна, што асоба памыляецца, то ёй прапануем дапамогу ў духу братэрскай любові. Калі нам самім не ўдаецца пабудаваць шчыры дыялог, тады просім больш кампетэнтную асобу, якая з'яўляецца ўплывовым аўтарытэтам для таго, каму хочам дапамагчы, каб паспрыяла нашаму дыялогу або выпраўленню нейкай сітуацыі. У выпадку са святаром такім аўтарытэтам можа быць іншы святар ці нават біскуп, у залежнасці ад складанасці праблемы. Любоў і шчырасць чыняць цуды.

**– Аўтары фінальнага дакумента зазначаюць: "Заклікі біскупаў, святароў, манаскіх асобаў часта не суправаджаюцца канкрэтнымі дзеяннямі, а вернікі не заўсёды ведаюць, які шлях выбраць, калі гэтых заклікаў ад духавенства няма". Што Вы думаеце на гэты конт?**

– У працытаваным Вамі фрагменце я бачу своеасаблівы акцэнт аўтараў дакумента на тым, каб духавенства і кансэкраваныя асобы не баяліся называць сваімі імёнамі тыя заданні, якія тут і цяпер паўстаюць перад іх лакальнай супольнасцю Касцёла. Называнне праблемы – гэта палова яе вырашэння. Паказванне практычнага шляху вырашэння – гэта зварот у бок поўнай і фактычнай перамогі. Аўтары дакумента сігналізуюць, што вернікі маюць больш адвагі на шляху вырашэння праблем, калі не толькі чуюць вельмі патрэбныя ім выразныя месэджы ад духавенства, але маюць пацвярджэнне іх словаў у практыцы жыцця. Калі добрае слова пацвярджаецца канкрэтным паспяховым і намацальным чынам – гэта найбольш дзейсны інструмент перакання. І гэтай звязкі "слова-чын" нам усім неабходна трымацца.

**– Дакумент кажа пра неабходнасць пераасэнсавання сённяшняй мадэлі функцыянавання парафіі. На якіх прыярытэтах Вы будавалі б гэтае пераасэнсаванне?**

– На гэтую тэму ўжо напісаныя цэлыя бібліятэкі навуковай і экспертнай літаратуры. Таксама рэалізуюцца вельмі цікавыя і смелыя душпастырскія ініцыятывы. Мне асабіста падаецца важным, каб ва ўсіх пошуках "аптымізацыі" не згубіць чалавека. Не вернік для парафіі, але парафія для верніка!

Я бачу ў цяперашняй сінадальнай ініцыятыве Папы Францішка своеасаблівае заахвочванне нас да таго, каб не баяцца адкрывацца на новыя формы і магчымасці рэалізацыі нашай галоўнай місіі як Касцёла на ўсіх узроўнях – ад паўсюднага да індывідуальнага: адкрыць дзверы Хрысту ў нашае жыццё, паказаць сучаснаму чалавеку на зразумелай яму мове, што і як канкрэтна рабіць, каб быць збаўленым. Мы жывём у цікавую і складаную эпоху г.зв. смерці "традыцыйнага грамадства". Імклівы прагрэс тэхналогій нараджае новы стыль узаемаадносін паміж людзьмі не толькі ў грамадстве, але і ў сям'і, і ў Касцёле, і ў асабістым побыце. Таму парафія ў "традыцыйным" (нязменным) грамадстве будзе вельмі адрозніваецца ад парафіі ў "новым" – нестабільным, імклівым і зменлівым асяроддзі. Нягледзячы на ўражанне татальнай зменлівасці, усё ж мы заўважаем пэўную канстанту, на якую варта абапірацца. Тое, што застаецца нязменным, – гэта чалавек з яго фундаментальнымі патрэбамі. І Бог якраз схаваны ў самым цэнтры шматлікіх прагненняў чалавека – у патрэбе сэнсу. А ён вызначае мэту і дзеянне. Таму, на мой погляд, парафія ў сучасным пост-традыцыйным грамадстве – гэта асяроддзе выразнага і канкрэтнага спосабу адкрыцця сэнсаў. Сведчанне прыкладу жыцця парафіянаў, з'яднаных аднымі каталіцкімі сэнсамі ў адкрытую супольнасць узаемнай падтрымкі і шанцаў, можа стаць вельмі прывабнай і паспяховай прасторай спаткання з Хрыстом. У практыцы такая парафія з'яўляецца супольнасцю супольнасцяў, якіх яднае адна Эўхарыстыя. Гэта тое, што ўжо рэалізуецца з большай ці меншай дынамікай і ў нашым, і ў іншых грамадствах.



**– Ці ёсць у Вас нейкая асабістая мара адносна ролі свецкіх у Касцёле?**

– Мараў шмат. Хтосьці з вялікіх казаў, што пакуль мы марым – мы жывыя. Адносна ролі свецкіх у Касцёле, мару пра тое, каб вернікі (духоўныя і свецкія) перасталі ўспрымаць Касцёл як нейкую двухкласавую сістэму: "святароў" і "вернікаў". Ёсць розныя віды служэння. Няма лепшых і горшых. Ёсць розныя віды пакліканняў. Кожнае каштоўнае і важнае. Чым больш мы будзем вылечвацца ад ацэначных класіфікацый паводле "лепшай" і "горшай" групы ці асобы, а ўсіх успрымаць адназначна як добрых і патрэбных, тым здаравейшыя будуць нашыя парафіяльныя супольнасці і адносіны паміж людзьмі ўвогуле.

Асоба заўсёды добрая, учынкі бываюць нядобрыя. Мару, каб кожны чалавек успрымаўся кожным удзельнікам супольнасці Касцёла як найвялікшая каштоўнасць Бога на зямлі. Каб кожны вернік успрымаў сябе як персанальна пакліканага Богам да здзяйснення сваёй асабістай і незамяняльнай місіі ў вялікім плане Хрыстовага збаўлення. Як жа шмат можа зрабіць кожны свецкі вернік, калі ён адкрые каштоўнасць і важнасць таго, кім ён і кожны чалавек ёсць у вачах Бога! У гісторыі хрысціянства мы маем вялікае мноства такіх прыкладаў. І на іх варта няспынна вучыцца.

*Гутарыў Арцём Ткачук*

# Як зацікавіць моладзь? Трэба прапаноўваць альтэрнатыву! Гутарка з душпастырам



**Маладыя людзі заўжды знаходзяцца ў асаблівым фокусе Касцёла. Клопат пра іх без сумневаў успрымаецца як дбайнасць пра будучыню. Сёлета ў Лісабоне адбудзецца Сусветная сустрэча моладзі. З гэтай нагоды я паразмаўляў з кс. Алегам Хмылко, адказным за душпастырства моладзі ў Віцебскай дыяцэзіі. Мы гаворым пра сучасную фармацыю маладзёнаў, перспектывы і выклікі ды чаканні ад сустрэчы ў Партугаліі, на якую паедуць каля дзвюх сотняў чалавек з Беларусі.**

**– Сучасная моладзь – якая яна?**

– Я б сказаў, што школьнікі і студэнты сёння больш занятыя, чым раней. З рэпетытарамі часта пачынаюць працаваць ужо з пятага класа. Таму нярэдка іх складана зматываваць, актывізаваць.

Моладзь у меншых мясцовасцях крыху больш сталая ў наведванні катэхезаў ці нейкіх сустрэч пры Касцёле, у горадзе з гэтым складаней. Гэта звязана з тым, што ў вялікіх гарадах школьнікі больш загружаныя рознымі заняткамі, там болей магчымасцяў бавіць вольны час. Агулам бачна, што моладзь прыходзіць у касцёл на св. Імшу, але на нейкіх сустрэчах ці катэхезах іх мала.

**– А што з гаджэтамі?**

– Калі бацькі мне жаляцца на тое, што дзеці сядзяць у тэлефонах, я заўжды пытаюся: а якая ў іх альтэрнатыва? Школьнік зрабіў урокі, выканаў усе абавязкі – і мае вольны час. Калі не было гаджэтаў, то раней ішлі на двор. А сёння сядаюць на канапу і бясконца гартаюць Tik Tok. Таму павінна быць альтэрнатыва.

На катэхезах я стараюся распавядаць пра цікавыя кнігі і заахвочваць іх чытаць. Каб яны дома адкладалі тэлефон і неяк развіваліся. Калі мы ладзім сустрэчы для моладзі, то стараемся напаўняць праграму рознымі актыўнасцямі максімальна. Каб быў нейкі "варушняк". Нават паміж пунктамі праграмы, каб гэта не было проста 20 хвілін перапынку і цішыні, бо зразумела, што ўсе ў гэты час залезуць у тэлефоны. Калі мы ладзім Дні Моладзі ў Браславе, то заўжды ёсць мячыкі, калонка, праз якую можна ўключыць музыку, настолкі, і частка людзей гэтым карыстаецца. Таму трэба прапаноўваць альтэрнатыву.

Разам з гэтым хачу падкрэсліць, што гаджэт у руцэ – гэта далёка не заўсёды штосьці кепскае. Моладзь карыстацца і мабільным малітоўнікам, спеўнікам, Бібліяй. Таму калі нават у касцёле маладая асоба сядзіць з тэлефонам, то, напэўна, не глядзіць Tik Tok.

**– На што б Вы яшчэ звярнулі ўвагу пры арганізацыі вялікіх моладзевых сустрэч?**

– Важна, каб быў вольны час. Я бачыў такія сустрэчы, дзе былі чатыры канферэнцыі ў дзень. На мой погляд, гэта зашмат. Нават даросламу такі аб'ём інфармацыі складана засвоіць. Моладзі таксама патрэбны час, каб проста пасядзець і пагутарыць, пафоткацца.

Яшчэ на нашых днях моладзі стараемся рабіць т.зв. воркшопы, то бок, запрашаем свецкіх спецыялістыў у нейкіх галінах – псіхолагаў, блогераў, журналістаў і г.д. Прынцып такіх воркшопаў – гэта не проста канферэнцыя, а інтэрактыў. На гэта адводжу тры гадзіны. Некаторыя казалі, што зашмат, што там можна рабіць столькі часу? Аднак практыка паказвае: нярэдка гэтага часу нават недастаткова. Гэта ўсё праз інтэрактыў, бо падчас воркшопаў ёсць гульні, сцэнкі і г.д. Пры гэтым усе воркшопы адбываюцца паралельна, і кожна павінен выбраць адно і што яму больш цікава.

**– То бок без "варушняку" складана ўбачыць моладзь у Касцёле?**

– Неабавязкова. Я казаў больш пра працу ў плане стварэння альтэрнатывы сядзенню ў тэлефоне. Моладзь хоча маліцца, спяваць рэлігійныя песні, прыходзіць на адарацыю, старэйшыя любяць цікавыя канферэнцыі.

Агулам я б не сказаў, што гаджэты з'яўляюцца асноўнай прычынай, чаму моладзь не наведвае катэхезы ці сустрэчы пры Касцёле. У выпадку школьнікаў гэта, хутчэй, нейкі сорам, адсутнасць кампаніі. Найчасцей у іх дзейнічае прынцып сарафаннага радыё: хтосьці быў на нейкай сустрэчы, яму спадабалася і яны адно аднаго запрашаюць. Школьнікі, якія проста прачыталі ці пачулі аб'яву ў Касцёле, мала прыходзяць, бо зноў жа: "ай, не ведаю", "баюся", "саромеюся".

**– Сёлета ўсе рыхтуюцца да Сусветнай сустрэчы моладзі ў Лісабоне. Наколькі важныя такія вялікія сустрэчы?**

– Канешне, важныя, бо моладзь бачыць такіх жа, як яны – маладых людзей, якія шукаюць Бога, моляцца. Такія сустрэчы працуюць па прынцыпе "моладзь да моладзі" і маюць інтэграцыйна-евангелізацыйныя мэты. Па гэтай прычыне на такіх сустрэчах вельмі карысная праца ў групах: моладзь любіць размаўляць і дзяліцца між сабой. Пры гэтым я стараюся ставіць маладых аніматараў, а не духавенства адказнымі за працоўныя групы ў такіх выпадках. Гэта лепш працуе.

Ці іншы прыклад. Калі я пачаў працаваць з маладымі людзьмі, то сабраў групу аніматараў, якія дапамагаюць арганізоўваць нашыя дыяцэзіяльныя мерапрыемствы. У сваю чаргу, маладзёны каторыя прыязджалі на гэтыя сустрэчы, пыталіся пазней, як патрапіць у групу аніматараў, бо ім спадабалася, як яны працуюць.

Інтэграцыйныя элементы – танцы, канцэрты, забавы – вельмі важныя на такіх сустрэчах. Трэба, каб моладзь камунікавала паміж сабой. Тады яны знаёмяцца, пачынаюць сябраваць. Часам нават цэлымі парафіямі.

**– Колькі людзей збіраецца з Вашай дыяцэзіі і ўвогуле з Беларусі на сустрэчу ў Лісабон?**

– Агулам з Віцебшчыны будзе каля 50-ці асобаў. А колькі будзе з усёй Беларусі, цяжка сказаць, але думаю 150-200 чалавек збярэцца.

**– Чаго Вы як душпастыр моладзі чакаеце ад гэтага выезду?**

– Такія сустрэчы ўражваюць колькасцю. Ужо вядома, што ў Партугаліі чакаюць 1,5 мільёна маладых удзельнікаў. Думаю, што маладыя людзі змогуць перажыць захапленне верай, прыналежнасцю да Каталіцкага Касцёла. Гэта можа падштурхнуць іх да развіцця духоўнага жыцця, удзелу ў моладзевым душпастырстве.

**– Ці ёсць справы, якімі Вы ганарыцеся ў плане працы з моладдзю?**

– Маё душпастырства дастаткова шырокае. Гэта арганізацыі сустрэч на дыяцэзіяльным узроўні. Таму моладзь на іх прыязджае і з'язджае, а плады з'яўляюцца там, дзе яны жывуць. Мы часамі просім аб зваротнай сувязі пасля сустрэч і, канешне, многія водгукі натхняюць. Кожны фідбэк, што хтосьці натхніўся ці змяніўся, несумненна, прыемны. Як гэта ўжо ў чалавеку далей развіваецца, цяжка сказаць...

Адна дзяўчына калісьці напісала мне, што некалькі гадоў таму падчас сустрэчы ў мяне была з ёй размова і што яна нядаўна да яе вярнулася і пачала змяняць жыццё. Таму тут не ўгадаеш, бо акцыя можа задзейнічаць у чалавеку і праз пяць гадоў.

У нашым душпастырстве не бывае такіх вялікіх і яскравых падзей, як, напрыклад, св. Пётр некалі навярнуў адразу тысячы *(смяецца – аўт.)*. Таму абапіраемся на сталую і рэгулярную працу.

**– Ці ёсць у Вас мары адносна душпастырства моладзі ў Вашай дыяцэзіі?**

– Ужо шмат гадоў думаю пра нейкі моладзевы рух. Я цяпер займаюся агульным душпастырствам, і гэта базуецца на арганізацыі інтэграцыйна-евангелізацыйных сустрэч, якія час ад часу адбываюцца. Хацелася б рухаца ў бок моладзевага руху са сваім фармацыйным планам, апекуном, рэгулярнымі сустрэчамі. Штосьці накшталт Асацыяцыі Каталіцкай Моладзі ў Польшчы (Katolickie Stowarzyszenie Młodzieży). Пакуль што малюся і думаю пра гэта.

*Гутарыў* ***Арцём Ткачук***





# “Нас да Сябе Ты прыгарні!” Прадстаўнікі касцельных рухаў і супольнасцяў сустрэліся ў Будславе

**“Заходзьце, Маці чакае!” – вядомы ўсім заклік, з якім звяртаецца да пілігрымаў кусташ Санктуарыя Маці Божай Будслаўскай ксёндз Дзмітрый Дубовік.**

■ **Вікторыя Філіпенка**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

На гэты заклік Нябеснай Матулі збіраліся пілігрымы ў Нацыянальным санктуарыі ў Будславе 6 мая. Тут у межах Вялікай навэнны падрыхтоўкі да 25-цігадовага юбілею каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Будслаўскай абдылося спатканне прадстаўнікоў касцельных рухаў.

Перад уваходам у храм прысутныя маглі ўбачыць вялікі плакат-банер, на якім былі адлюстраваныя рухі і супольнасці, што дзейнічаюць ва ўсёй Беларусі. Іх задачы і кірункі розныя, але мэта адна – пашырэнне Божага Валадарства.

“Усе мы ідзём рознымі сцяжынкамі, але ў адным накірунку – да Неба”, – такім быў дэвіз спаткання. І гэтае адзінства сапраўды адчувалася. Найперш у тым, што розныя рухі і супольнасці адказвалі за правядзенне сустрэчы, якая стала сапраўдным святам.

Малітоўная праграма распачалася з Фацімскага ружанца, які праводзіў Легіён Марыі. Падчас набажэнства многія пілігрымы прыступілі да сакраманту споведзі, каб, паяднаўшыся з Міласэрным Айцом, прыняць Камунію падчас святой Імшы.

Апоўдні распачалася Імша, цэлебрацыю якой узначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі.

Напачатку іерарх прывітаў прысутных святароў, апостальскага адміністратара для Грэка-каталіцкай Царквы ў Беларусі Сяргея Гаека, законных сясцёр і ўсіх пілігрымаў. Біскуп зазначыў, што сёння Маці Божая таксама вітае кожнага з нас, зазлядае ў нашыя вочы, прытуляе да матчынага сэрца.

“Сёння мы збіраемся разам у Імя Божае. А як сказаў Хрыстос: “Дзе двое або трое збіраюцца ў Імя Маё, там Я сярод Іх”. Сёння Езус сустракае ўсіх нас і хоча адарыць шматлікімі ласкамі, а Марыя вядзе за руку, як маленькае дзіцятка, па нашым жыцці”, – прамовіў іерарх.

Падчас гаміліі біскуп Юры разважаў над месцам розных рэлігійных рухаў у жыцці Касцёла. Ён засяродзіўся над дагматычнай Канстытуцыяй пра Касцёл “Святло народаў”. А асабліва над сказам: “І спадабалася Богу збаўляць не кожнага чалавека паасобку, а зрабіць з роду людскога народ Божы, каб весці яго да брамаў Валадарства Нябеснага”.

Касцёл – гэта жывы арганізм, які складаецца з розных частак. І кожная з гэтых частак важная. Кожны рух і супольнасць – гэта форма пакліканні. Быць у руху ці супольнасці – не выпадковы выбар, а пакліканне, натхнёнае Духам Святым.

Гэтае пакліканне дапамагае паглыбляць веру, самаўдасканальвацца, але і дае духоўны плён для іншых людзей, бо кожны з нас – сведка Езуса Хрыста.

Напрыканцы Імшы адбылося бласлаўленне мемарыяльнай дошкі ў памяць пра шматгадовага кусташа санктуарыя айца Віктара Бурлаку OFM.

Наступным пунктам малітоўнага спаткання была канферэнцыя ксяндза Андрэя Лысага SChr, у якой святар зазначыў, што шляхам узрастання да святасці павінна быць дарога ад рэлігійнай групы да сапраўднай хрысціянскай супольнасці.

Немагчыма затрымацца толькі на стварэнні рэлігійнай групы, бо яна не вядзе да збаўлення, калі ў цэнтры не стаіць Асоба Езуса Хрыста. Сапраўдная хрысціянская супольнасць – гэта дарога да паўнаты чалавечнасці праз наследаванне Езуса і будаванне супольнасці паўсюднага Касцёла.



Пасля канфэрэнцыі ўдзельнікі руху факаляраў правялі адарацыю Найсвяцейшага Сакраманту. У гадзіну Божай Міласэрнасці прысутныя памаліліся Вяночак разам з прадстаўнікамі шанштацкага руху.

Пакуль дарослыя пілігрымы маліліся ў храме, дзеці пад кіраўніцтвам прадстаўнікоў рухаў ЭНД і “Сужэнскія сустрэчы” ўдзельнічалі ў квэсце “Сэрца Марыі”. Маленькія пілігрымы выконвалі заданні і шукалі ключы ад куфара са скарбам – медалікамі з выявай Маці Божай Беззаганнай. Гэтыя медалікі напрыканцы сустрэчы асвяціў біскуп Юры Касабуцкі.

Трэба адзначыць, што сустрэча пілігрымаў з Маці Божай Будслаўскай была вельмі цёплай, малітоўнай і натхнёнай. Гэта адбылося дзякуючы намаганням арганізатараў і прадстаўнікоў рухаў і супольнасцяў. Так, дабрачынная арганізацыя “Карытас” дапамагла стварыць для дзяцей сапраўдную пляцоўку з рознымі гульнямі і забавамі, хор з Маладзечанскай парафіі святога Казіміра ўпрыгожыў Літургію сваімі спевамі, рух Святло-Жыццё арганізаваў працэсію з дарамі і малітву вернікаў.

Напрыканцы ўсе прысутныя заспявалі разам вядомую песню да Маці Божай Будслаўскай і, атрымаўшы бласлаўленне, накіраваліся дадому, каб там несці святло Хрыста сваім родным і блізкім.

## Святая Імша падзякі за адзінаццаць гадоў школьнага жыцця прайшла ў Глыбокім

**У апошнія дні навучання ў школе і перад выпускнымі экзаменамі, якія ў гэтым годзе распачаліся раней, 6 мая выпускнікі разам са сваімі настаўнікамі, бацькамі, бабулямі і дзядулямі наведалі парафіяльную святыню Святой Тройцы ў Глыбокім, каб разам падзякаваць Богу за час навучання, за ўсіх, хто на працягу адзінаццаці гадоў дапамагаў узрастаць духоўна і інтэлектуальна, а таксама прасіць Святога Духа пра дапамогу на далейшым, ужо самастойным шляху.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Многія школьнікі і іх бацькі прыступілі да сакраманту пакаяння, каб ачысціць свае сэрцы і паяднацца з Госпадам. Урачыстую Імшу ў інтэнцыі выпускнікоў цэлебраваў пробашч парафіі ксёндз Мікалай Ціхановіч. У гаміліі святар прасіў, па-айцоўску пажадаў выпускнікам, каб не загубілі свайго сэрца, душы, свайго “я” ў мітуслівым і шалёным рытме гэтага свету, а заўсёды памяталі, што кожны з нас – Божае дзіця. “Не імкніцеся да лёгкага, камфортнага жыцця, не бойцеся жыццёвых цяжкасцяў і трымайцеся сапраўднай любові”, – падкрэсліў пробашч.

Таксама кс. Мікалай звярнуўся да бацькоў: “Хачу вас папрасіць: любіце і будзьце побач! Перастаньце імі камандаваць, нейкія накірункі даваць, калі яны не пытаюцца. І не асуджайце ніколі, калі дзеці будуць памыляцца. Успомніце сябе ў іх гадах – і ўсё будзе зразумела. Толькі не рабіце тых самых памылак, проста любіце і падтрымлівайце”.

Пасля адмысловага бласлаўлення выпускнікам са словамі падзякі святарам за малітву і сёстрам законным за духоўнае выхаванне звярнуліся Яўген Далгалёў ад імя выпускнікоў і Андрэй Шаршнёў ад імя бацькоў.

На тварах выпускнікоў былі ўсмешкі, бо яны ведаюць, што не толькі распачынаюць самастойнае жыццё без таты і мамы, але ўжо даверылі сваю будучыню Міласэрнаму Нябеснаму Айцу.





## Перэгрынацыя цудоўнага медаліка ў парафіі святога Уладзіслава ў Віцебску

**7 мая ў межах падрыхтоўкі да юбілею аб’яўлення Найсвяцейшай Панны Марыі святой Кацярыне Лябурэ ў парафіі святога Уладзіслава ў Віцебску адбылася перэгрынацыя цудоўнага медаліка.**

■ **Лаліта Арлоўская**, *тэкст і фота*

Падчас сустрэчы сястра Ірына Грыгаровіч Fdlc з Шуміліна распавяла прысутным гісторыю аб’яўленняў Маці Божай св. Кацярыне Лябурэ і асноўны сэнс прыняцця медаліка. Асаблівую ўвагу сястра Ірына звярнула на блізкасць Маці Божай да кожнага верніка і заклікала слухачоў часцей давяраць Ёй свае клопаты. Пасля прадстаўнікі Вінцэнтыянскай Марыйнай моладзі раздалі ўсім ахвотным медалікі.

Вольга Вішнякова – прадстаўніца руху Вінцэнтыянскай Марыйнай моладзі, якая дапамагае сёстрам-шарыткам у распаўсюджванні медаліка, падзялілася сваім меркаваннем: “Бог дае людзям бачныя знакі, каб узмацніць іх веру, а медалік – гэта адзін з такіх знакаў. Я лічу, што значна прасцей перажыць выпрабаванне, калі ёсць бачны вобраз. Гэта дае адчуванне блізкасці Езуса і Яго Маці ў жыцці”.

Прысутныя маглі ўзяць невялікія буклеты “Дар Марыі” і кнігу “Жыццё Катрын Лябурэ”, каб больш падрабязна пазнаёміцца з гісторыяй і сутнасцю аб’яўленняў Маці Божай.

Перэгрынацыя цудоўнага медаліка адбылася ўжо ў 23 парафіях. Парафія святога Уладзіслава – другая ў Віцебску, якая прыняла перэгрынацыю.

Наступнай, хто возьме ўдзел у ініцыятыве, будзе парафія святога Антонія ў Віцебску, якая прыме перэгрынацыю 4 чэрвеня.

# Адпустовая ўрачыстасць у Дзеркаўшчыне

**9 мая на ўрачыстасць святога Мікалая ў парафіі Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне паводле традыцыі адбыўся парафіяльны фэст. Перад святой Імшой трывала адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Вернікі памаліліся Ружанец і Гадзінкі аб Беззаганным Зачацці Найсвяцейшай Панны Марыі. Многія скарысталіся магчымасцю споведзі.**

■ **Алена Пажога**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

На ўрачыстасць прыбылі кс. Аляксей Ляшко – афіцыял Біскупскага суда Віцебскай дыяцэзіі, кс. Ян Пугачоў, кс. Мікалай Ціхановіч, кс. Алег Зямчонак, кс. Андрэй Таўрук, кс. Аляксандр Баран, кс. Дзмітрый Рацько, кс. Віталь Галец, кс. Віталь Бяленік.

У пачатку святой Імшы пробашч парафіі кс. Валеры Орсік сардэчна прывітаў святароў, сясцёр законных, усіх прысутных вернікаў, а таксама нагадаў, што 936 гадоў таму рэлíквіі святога Мікалая былі перанесеныя з Міры Лікійскай у г. Бары ў Італіі.

Святую Імшу ўзначаліў ксёндз доктар Мікалай Ціхановіч. Слова да вернікаў прамовіў ксёндз Аляксей Ляшко, які расказаў пра святога Мікалая, пра цуды, што ўчыніў і працягвае чыніць святы. Святыя – слава Божая, якая праяўляецца ў жыцці. Святы біскуп Мікалай клапаціўся пра бедных, праславіўся міласэрнасцю, ратаваннем ад раптоўнай смерці. Яго лічаць цудатворцам, апекуном сужэнстваў, вязняў і маракоў, а таксама вялікім сябрам дзяцей. Ксёндз Аляксей падкрэсліў, што Бог ёсць Любоў. Кожны чалавек можа станавіцца святым у штодзённым жыцці, узрастаючы ў міласэрнасці і любові. Затым адбылася працэсія дароў.

Напрыканцы Імшы кс. Валеры яшчэ раз падзякаваў святарам, сёстрам законным, хору, літургічнай службе і ўсім, хто прычыніўся да ўрачыстасці. Прысутныя памаліліся Літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі. Адбылася эўхарыстычная працэсія вакол касцёла.

Завяршылася свята спевам "Цябе, Бога, праслаўляем!"



## На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1** чэрвеня – дзень нараджэння і гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч** *(Опса)*;

**3** чэрвеня – імяніны адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*; дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**9** чэрвеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Алег Зямчонак** *(Глыбокае)*;

**11** чэрвеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** *(Віцебск)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Росіца)*;

**13** чэрвеня – імяніны адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*;

**14** чэрвеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Віталь Сапега OP** *(Віцебск)*;

**15** чэрвеня – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Самсонаў** *(Паставы)*;

**17** чэрвеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Крыштаф Сілкоўскі SCJ** *(Паставы)*;

**19** чэрвеня – дзень нараджэння адзначаюць **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Росіца)*, **а. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*;

**20** чэрвеня – імяніны адзначае **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*;

**21** чэрвеня – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **ксёндз-канонік Яцэк Хутман** *(Камаі)*, **кс. Віктар Сініцкі SCJ** *(Шаркаўшчына)*;

**23** чэрвеня – імяніны адзначае **кс. Зянон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**24** чэрвеня – імяніны адзначаюць **кс. Іван Кароткін** *(Наваполацк)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*;

**27** чэрвеня – імяніны адзначаюць **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін, кс. Уладзіслаў Шаркові**ч *(Дрысвяты)*;

**29** чэрвеня – імяніны адзначаюць **кс. Павел Самсонаў** *(Паставы)*, **а. Павел Мажэйка OP** *(Віцебск)*, **а. Павел Лемех OMI** *(Шуміліна)*.



*Падрыхтаваў*
***кс. кан. Віктар Місевіч***

# Тэст на "К"

**Шаноўныя чытачы! На гэты раз запрашаем вас паразважаць над пытаннямі, адказы на якія будуць пачынацца на літару "К". Будзьце ўважлівымі, выбірайце правільныя варыянты.**

**1 Кніга, якая змяшчае асноўныя палажэнні хрысціянскага веравучэння, часта выкладзеныя ў выглядзе пытанняў і адказаў:**



**А.** Катэхеза
**Б.** Катэхізіс
**В.** Крэда

**2 Выберыце з пералічаных імя жанчыны, якая з'яўляецца доктарам Касцёла:**



**А.** Кацярына
**Б.** Клара
**В.** Каміла

**3 Як традыцыйна называюць чалавека, які рыхтуецца да прыняцця сакраманту хросту?**



**А.** Катэхумен
**Б.** Католік
**В.** Катэхет

**4 Звычайна так называюць галоўны ў дыяцэзіі касцёл:**



**А.** Каранаваны
**Б.** Каталіцкі
**В.** Катэдральны

**5 Горад, у якім быў праведзены Другі сусветны сабор:**



**А.** Кёльн
**Б.** Карынт
**В.** Канстанцінопаль

**6 Як называюць цноты, якія чалавек выпрацоўвае праз працягу ўсяго жыцця? (разважлівасць, справядлівасць, мужнасць, устрыманасць)**



**А.** Кардынальскія
**Б.** Кардынальныя
**В.** Кранальныя

**7 Як называецца дакумент-дамова паміж Ватыканам і любой іншай краінай?**



**А.** Канкардат
**Б.** Канстытуцыя
**В.** Крэда

**8 Права, якое рэгулюе адносіны ўнутры Касцёла:**



**А.** Кананічнае
**Б.** Каталіцкае
**В.** Катэхетычнае

**9 Адзін з сямі сакраманатаў Касцёла, падчас якога чалавек атрымлівае дар Духа Святога сваім жыццём рэалізаваць ласку прынятага раней хросту і быць сведкам Хрыста:**



**А.** Камунія
**Б.** Канфірмацыя
**В.** Кансэкрацыя

**10 Старажытная рэліквія Ізраэльскага народа, у якой, між іншым, захоўваліся таблічкі з запаведзямі:**



**А.** Калона
**Б.** Куфар
**В.** Каўчэг

*Падрыхтавала*
***Лаліта Арлоўская***

**Правільныя адказы на віктарыну на стар. 16**

# Грэка-католік – гэта свядомы выбар. Лікбез паводле беларускага ўніяцтва

**На тэрыторыі сучаснай Беларусі ў XVIII ст. уніяты складалі 80 % насельніцтва. Да Грэка-каталіцкай Царквы нашых часоў належыў цэлы шэраг выбітных беларускіх дзеячаў: Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Янка Брыль. Быў перыяд, калі ўніяты амаль цалкам зніклі з нашай зямлі, а сёлета для грэка-католікаў Беларусі стварылі Апостальскую Адміністратуру – першасную форму арганізацыі Царквы.**

Пра тое, хто такія католікі візантыйскага абраду, чым займаюцца і як развіваецца супольнасць, мы паразмаўлялі з а. Андрэем Кратом, пробашчам парафіі Маці Божай Фацімскай у Гродне.

**– У Беларусі, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, налічваецца 5000 грэка-католікаў і 16 парафій. Чым займаюцца вернікі?**

– Амаль штодня адбываецца Літургія, служацца вячэрні, г. зн. нешпары паводле лацінскага абраду. У сваёй парафіі я звычайна размлічваю на магчымасці вернікаў. Састарэлай парафіянцы лягчэй прыйсці ў касцёл, што каля дома, чым дабірацца да нас. Таму, калі некаторыя вернікі раз на некалькі тыдняў прыйдуць на Літургію ў будні дзень, – гэта ўжо дасягненне.

Удзельнічаем у ініцыятывах мясцовага Рымска-каталіцкага Касцёла – у пілігрымках, рэкалекцыях. Арганізоўваем і свае. Амаль 30 гадоў хадзіла паломніцтва з Віцебска, ад месца мучаніцтва св. Язафата Кунцэвіча, да Полацка, да аднайменнай катэдры. Пасля змены заканадаўства аб масавых мерапрыемствах дазволіць сабе пілігрымку мы не ўжо не змаглі. Перад святамі ладзім парафіяльныя рэкалекцыі.

Рэалізоўваем і сацыяльныя праекты. Збіраем гуманітарную дапамогу для тых, хто мае патрэбу, бавім час з дзецьмі з фізічнымі і псіхічнымі парушэннямі. У Мінску ёсць дабрачынны "Рух Святога Мікалая", які ладзіць розныя цікавыя акцыі. Напрыклад, валанцёры робяць бутэрброды, а пасля шукаюць у горадзе бяздомных і частуюць іх.

**– Усе грэка-каталіцкія святары, якія служаць у нашай краіне, з'яўляюцца беларусамі. Пры гэтым толькі адзін з іх атрымаў святарскае пасвячэнне тут. Дзе рыхтуюць будучых мясцовых святароў візантыйскага абраду?**

– Паколькі мы ў Беларусі не маем уласнай семінарыі, то нашыя святары вучыліся альбо ў рымска-каталіцкіх семінарыях Польшчы, альбо ў грэка-каталіцкіх ва Украіне. Некаторыя хлопцы, адвучыўшыся ў рымска-каталіцкай семінарыі, ехалі на пэўны час у грэка-каталіцкую, каб атрымаць літургічную практыку. Беларускія ўніяты, якія адчуваюць пакліканне да святарства, могуць далучацца таксама да манаскіх ордэнаў: да тых, якія працуюць і ў лацінскім, і ў візантыйскім абрадах, або да грэка-каталіцкіх – такіх, як базыльяне ці студыты. Ёсць і рымска-каталіцкія ордэны, каторыя маюць усходняе адгалінаванне – напрыклад, рэдэмптарысты візантыйскага абраду. Прэзбітарскае пасвячэнне за мяжой уніятам удзяляюць біскупы Усходніх Каталіцкіх Цэркваў, пасля чаго яны вяртаюцца служыць у Беларусь. Дарэчы, у Гродзенскай дыяцэзіі служыць а. Зміцер Чарнэль – рэдэмптарыст і ўніят. У нядзелі ён праводзіць Літургію ў грэка-каталіцкай парафіі ў Баранавічах, а пасля цэлы тыдзень цэлебруе св. Імшы ў лацінскім абрадзе ў Гродне.

**– Айцец Андрэй, а ў чым адметнасць Вашага паклікання?**

– Сваё пакліканне я дзялю на дзве часткі – звычайную і містычную. Я прыняў сакрамант хросту ў Праваслаўнай Царкве, калі меў прыкладна пяць гадоў. Сям'я мая веру не практыкавала, а мама ўвогуле не была ахрышчанай. Таму цікавіцца рэлігійным жыццём я пачаў самастойна. Трапіўся мне мультфільм пра Біблію – "Суперкніга", я стаў знаёміцца з адмысловай літаратурай, з большага праваслаўнай. Аднак пасля зацікавіўся гісторыяй Беларусі і вычытаў, што "сапраўдная беларуская вера – уніяцкая". Далей даведаўся, што калі грэка-католік не мае побач уніяцкай царквы, то павінен наведваць рымска-каталіцкую святыню. Я пайшоў у касцёл у родных Івацэвічах – там былі толькі бабулькі, а ў парафіі ў Брэсце, дзе я пачаў вучыцца ва ўніверсітэце, мной ніхто не зацікавіўся. Па запрашэнні сябра я далучыўся да грэка-каталіцкага паломніцтва Віцебск – Полацк. Там было шмат моладзі: памятаю, ажно спалі ўпоперак канапы! Мяне ўцягнула жывая супольнасць. У пілігрымцы я пераажыў таксама сустрэчу з Хрыстом і маліўся, каб гэтае пачуццё са мной засталося.

Вярнуўшыся ў Брэст, працягваў шукаць там грэка-католікаў. Меў аднаго выкладчыка, якога называлі ўсе на беларускі манер – спадар Мікола. Інтуіцыя падказвала, што пра ўніятаў трэба спытацца ў яго. Праз гэтага чалавека я і пазнаёміўся з Ігарам Бараноўскім, будучым рэдактарам грэка-каталіцкай газеты "Царква". Калі я сказаў яму, што сам з Івацэвічаў, спадар Ігар адрэагаваў: "Дык там жа ў міжваенны час дзейнічала грэка-каталіцкая парафія, дакладней – у Бабровічах!" І тут у мяне зрабіліся вялікія вочы, бо гэта мая вёска! У пашпарце так і пазначана: месца нараджэння – в. Бабровічы.

Падчас Першай сусветнай вайны жыхароў адтуль дэпартавалі, бо вёска размяшчалася на лініі фронту. Пасля вайны сяляне вярнуліся і пачалі адбудоўваць хаты і рэлігійнае жыццё. Звярнуліся да біскупа Лазінскага, каб прыслаў ім грэка-каталіцкага святара, але доўга ніхто не хацеў у Бабровічы ехаць, бо вёска ў балоце. У выніку прыбыў а. Баляслаў Пачопка – актыўны ўдзельнік беларускага каталіцкага руху, былы рэдактар газеты "Беларус", выдавец першага беларускага каталіцкага малітоўніка лацінкай "Бог з намі", жанаты і з дзецьмі. Баброўцы яго палюбілі. Святар пабудаваў новую драўляную царкву: частку грошай узяў з парафіі, частку фундавала Магдалена Радзівіл, а частку ўклаў сваіх, прадаўшы кароў з гаспадаркі. Пасля прыходу савецкай улады, якая "даймала" святара, ён хутка памёр. Адышоў у жыццё вечнае а. Баляслаў у шпіталі ў Целяханах – у тым самым, дзе нарадзіўся я, бо ў самых Бабровічах радзільні не было. Я думаю, што дзякуючы яго малітвам у небе і нарадзілася маё пакліканне.

**– З Вашага аповеду выходзіць, што грэка-каталікі – гэта моладзь і інтэлігенцыя. Пра гэта кажуць і шматлікія інфармацыйныя крыніцы. Як так склалася ?**

– Першая хваля вернікаў нашай Царквы, якія спрычыніліся да яе адраджэння ў 90-я гады XX стагоддзя, не выхоўвалася ў грэка-каталіцкай традыцыі. Не было такіх вернікаў, які маглі б сказаць: мая бабуля была ўніяткай, яна выхавала мяне грэка-католікам і я падобным чынам выхаваю сваіх дзяцей. Такіх вернікаў былі адзінкі. У асноўным гэта людзі, якія шукалі, знаходзілі і далучаліся да ўніі. Улічваючы, што нашая Царква цалкам беларускамоўная, у свой час да нас прыйшло шмат інтэлігенцыі. Завітаў, напрыклад, прафесар з універсітэта, і пасля прывёў людзей са свайго акадэмічнага асяроддзя. Так і склалася.

Сёння ў Беларусі вышэйшую адукацыю мае амаль кожны, таму няма сэнсу дзяліць людзей на інтэлігентных і не. У сувязі з гэтым складана сказаць, ці на дадзены момант грэка-католікі – гэта інтэлігенцыя. Нашае маладое пакаленне ўжо вырасла, нарадзіла дзяцей, таму і ў гэтым плане вернікі змяніліся.

**– Афіцыйныя супольнасці менавіта беларускіх грэка-католікаў ёсць і ў Лондане, і ў Празе, і ў Варшаве, і ў Калінінградзе. Чым абумоўлена такая эфектыўнасць, нягледзячы на малаколькаснасць?**

– Як я сказаў вышэй, прыйсці ў Грэка-каталіцкую Царкву – гэта не традыцыя, а свядомы выбар. З аднаго боку, адсутнасць традыцыі – гэта мінус, бо яе не хапае. З другога боку, плюс, бо са свядомасці вынікае і адказнасць за Царкву. Грэка-католік будзе не толькі стаяць на набажэнстве ў нядзелю, але і ўнікаць у справы парафіі. Маю знаёмую ўніяцкую сям'ю з Івацэвічаў, якая імігравала ў Варшаву. Сужэнцы былі актыўнымі ў Беларусі і перавезлі сваю актыўную пазіцыю ў грэка-каталіцкую супольнасць у Польшчу. Разам з тым у нашай краіне часта здараецца, што грэка-католікі ўліваюцца ў Рымска-каталіцкі Касцёл, бо там больш сустрэчаў, імпрэзаў, рэкалекцый.

**– Чым, акрамя абраду, адрозніваюцца грэка- і рыма-католікі?**

– Абрад – не проста форма правядзення богаслужэння. Гэта і выражэнне нашай веры, тэалагічнага светаўспрымання. Беларус і афрыканец у тым самым лацінскім абрадзе будуць выказваць веру інакш: першы – больш памяркоўна, другі – жывей. Тое самае і з візантыйскім абрадам: ён уплывае на нашую пабожнасць. Яшчэ з адрозненняў: няма адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, Эўхарыстыю мы толькі прымаем. Разам з тым існуе традыцыя пакланення абразам, якая адрозніваецца ад рымска-каталіцкай традыцыі шанавання абразоў.

**– Як ладзіцца супраца з Касцёлам?**

– У мяне – цудоўна. У Беларусі ў гэтым плане ўвогуле не існуе рознагалоссяў. Калі мы не маем будынка, праводзім набажэнствы ў рымска-каталіцкіх святынях. Нашых святароў запрашаюць узначаліць рэкалекцыі ў касцёлах, а мы ксяндзоў клічам да сябе. Мне даводзіцца шмат дапамагаць спавядаць у рымска-каталіцкіх святынях. На працягу апошніх 15-ці гадоў спавядаю там перад святамі ў гарадзенскай катэдры. У нас няшмат матэрыяльных сродкаў, якімі мы можам падзяліцца, дык стараемся хаця б свабодным часам дапамагчы: нейкі ксёндз пойдзе на паўгадзіны раней адпачыць...

**– Са стварэннем Апостальскай Адміністратуры ў грэка-католікаў Беларусі распачаўся новы этап – з'явілася структура, якую трэба запаўняць. Якой Вы бачыце будучыню Царквы?**

– Добра абставіны будуць складвацца ці дрэнна, Царква не будзе вялікай, але дастаткова дынамічнай і ўплывовай у духоўным, рэлігійным і культурным жыцці краіны. Людзі будуць ведаць, што існуюць грэка-каталіцкія супольнасці ў Гродне, Брэсце, Магілёве ці Мінску, якія могуць даць штосьці не толькі сваім вернікам, але ўсім беларусам.

***Ангеліна Марцішэўская***



Айцец Андрэй Крот



Грэка-каталіцкае набажэнства ў Івацэвічах

**Даведка**

*Усходнія Каталіцкія Цэрквы – агульная назва Цэркваў усходніх абрадаў, што падпарадкоўваюцца Папу Рымскаму.*

*Берасцейская унія, 1596 год – аб'яднанне Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў пад уладай апостальскага Пасаду ў Рыме на тэрыторыі Рэчы Паспалітай.*

# Свидетельство об освобождении от алкоголизма

**“Алкоголь хитрый, властный, сбивающий с толку – есть такая формулировка. Он затягивает очень медленно, сначала принося удовлетворение и эмоциональный подъём” – говорит Геннадий, описывая проблему алкоголизма. Сейчас он не употребляет алкоголь, вот уже 17 лет, и уверен, что именно Бог помог ему справиться с болезнью.**

– Моя история началась, как и у большинства будущих алкоголиков. В первый раз я попробовал спиртное в школе, это был 7-8 класс. Во многом на моё употребление тогда повлиял пример окружения: казалось, что это совершенно нормально.

Мои детство и юность пришлись на советскую эпоху. Тогда часто устраивали школьные вечера и другие мероприятия. Используя опыт старшеклассников и родителей, мы собирались небольшой кампанией, человек 5-6, искали какую-нибудь бутылку вина и вместе выпивали. В школе мы употребляли в небольших количествах, просто чтобы расслабиться, поднять настроение. В те дни я думал, что алкоголь станет моим другом по жизни, с ним было веселее и удобнее.

Лет через пять после моего первого употребления я уже мог выпить лишнего, это был первый признак. А через лет десять начались довольно серьёзные проблемы. В возрасте 24-25 лет у меня уже была сформирована алкогольная зависимость. Долгое время я это отрицал, предпочитал не видеть.

Первый человек, который начал показывать мне мою проблему, была мама. Но тогда я не придавал значения её словам. Потом об этом стали говорить другие близкие мне люди. Я, как алкоголики обычно делают, продолжал всё отрицать.

**Переломный момент в моей жизни наступил тогда, когда я достиг так называемого “дна”.**

Для того, чтобы что-то понять, я должен был потерять всё. Думаю, по-другому я бы никогда не смог осознать своей проблемы. В 24 года я закончил институт и уехал с женой в Борисов. Через года 2-3 жизни там я уже имел свою фирму и в общем у меня было всё необходимое для комфортной жизни. Даже немного больше.

Всё казалось хорошо, но проблема алкогольной зависимости активно развивалась. Буквально через 3-4 года у меня уже ничего не было. Фирма, машина, квартира, жена – я всё потерял. В конце концов, я оказался на улице. Вечерами я заходил в подъезд (в то время ещё не везде были домофоны) и ночевал между этажами на лестнице. Просыпался рано утром и тихо уходил, чтобы меня не увидели жильцы. Так я жил больше месяца.

Тогда я вообще ничего не чувствовал. Мне всё было безразлично. Единственное, я ощущал отсутствие смысла. Мне хотелось быстрее выпить и забыться, чтобы заглушить то невыносимое состояние, в котором я постоянно находился. Ужаснее состояния нет, и сейчас я сделаю всё возможное, чтобы не вернуться туда.

Через какое-то время я попал в квартиру к человеку в похожей ситуации. В той квартире уже не было ничего, только стены и два матраса. Утром мы с ним просыпались, шли в город собирать пустые бутылки, сдавали их и покупали на эти деньги алкоголь.

В то время я уже отчётливо видел свою проблему, мне не нужны были люди, которые указали бы на неё, но, мне казалось, из этого нет выхода. Я видел, что не могу работать. Мне пришлось вернуться в Глубокое к родителям, но и там я не мог устроиться, меня часто выгоняли из-за алкоголя.

Тогда я уже понимал, в чём корень своего несчастья, и хотел не пить, но не мог. Это было очень тяжёлое состояние, все мои попытки бросить пить не заканчивались успехом. Я пробовал кодирование, но это помогало только не месяц, а потом я срывался. Самый большой период, который я продержался тогда без алкоголя, – 8 месяцев. А потом всё начиналось заново и становилось хуже.

Я долго думал над тем, что помогло мне тогда найти выход, и понял, что сам я бы его никогда не нашёл.

**Я уверен, что мне помог Бог. Через маму.**

С тех пор, как мама впервые заметила мою проблему, она не переставала молиться за меня. Молилась целыми днями: по пути на работу, во время работы, после – и так 12 лет. Помню, просыпался пьяный и видел через дверной проём, как она стоит на коленях и молится. И что-то во мне произошло.

К тому моменту в последний раз в костёле я был в 22 года, когда венчался с женой. И даже тогда я был не трезвый. В 36 лет я сделал первый шаг в костёл, только теперь это было не потому, что так надо, мне просто захотелось. Спустя какое-то время мне захотелось пойти туда снова, потом опять. Так постепенно я стал не только регулярно ходить в костёл, но и жить трезво. Я уверен, что на меня подействовал Бог, потому что сам я уже ничего не мог сделать.

У меня получилась индивидуальная история. Я не участвовал в группах. Познакомился с программой “12 шагов” только когда начал работать в реабилитационном центре, на десятом или одиннадцатом году трезвости. Бог вёл меня по своей программе, и уже семнадцатый год я не употребляю алкоголь.

*Геннадий*

## Аднаўляецца праца капліцы ў Віцебскай абласной клінічнай лякарні

Катэдральная парафія Езуса Міласэрнага ў Віцебску паведамляе, што з мая 2023 года аднаўляецца праца капліцы ў Віцебскай абласной клінічнай лякарні.
**Святая Імша будзе цэлебравацца кожную трэцюю сераду месяца а 16.00**
(г. зн. 21 чэрвеня, 19 ліпеня і г.д.).
Па просьбе пацыентаў і індывідуальнай дамоўленасці са святаром святая Імша можа быць адпраўлена ў іншы дзень і час.
Капліца знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.
***Кантакты:***
***+375 29 785-12-98 – кс. Генадзь***
***+375 29 597-32-01 – Марыя***

# Как спастись от алкоголизма?

**“Анонимные алкоголики” – это содружество, объединяющее мужчин и женщин, которые делятся своим опытом, силами и надеждами с целью помочь себе и другим избавиться от алкоголизма.**



• Единственное условие для членства – это желание бросить пить.

• Мы не платим ни вступительных, ни членских взносов.

• Мы сами себя содержим благодаря нашим добровольным пожертвованиям.

• Сообщество не связано с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или партией; не вступает в полемику по каким бы то ни было вопросам, не поддерживает и не выступает против чьих-либо интересов.

• Наша основная цель: оставаться трезвыми и помочь другим алкоголикам обрести трезвость.

У нас есть программа выздоровления от алкоголизма **(12 шагов)**, которая изложена в книге “Анонимные алкоголики”. Она основывается на духовных принципах, которые являются ориентацией на общечеловеческие ценности: любовь к людям, стремление к взаимопомощи, добру и самосовершенствованию.

**12 Шагов АА** – это образ жизни, позволяющий страдающему алкоголику освободиться от пристрастия к алкоголю и стать счастливым и полезным человеком.

Для прохождения программы мы применяем принцип наставничества. Наставничество – это работа по передаче опыта прохождения программы **(12 шагов)** от одного алкоголика другому, а также постоянная ответственность за оказание помощи новичку, чтобы он мог научиться жить без алкоголя.

**Круглосуточная горячая линия АА:**
+375 (29) 276-83-17
+375 (44) 780-73-29
**Где нас найти?**

**г. Витебск**
Группа “Возрождение”
Ул. Гагарина, 46а, костел святого Антония
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.30, воскресенье (открытое собрание) – 14.30.
+375 (33) 696-45-88

**г. Орша**
Группа “Выход есть”
ул. Советская, 6, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00
+375 (29) 590-55-86

**г. Новополоцк**
Группа “Лотос”
ул. Я. Коласа, 52, костел.
Расписание собраний: вторник, пятница – 18.00-20.00, воскресенье – 15.00-17.00. Последнее воскресенье месяца – открытое собрание совместно с группой Ал-Анон.
+375 (33) 683-12-76

**г. Браслав**
Группа “Истина”
Ул. Советская, 2.
Расписание собраний: воскресенье – 10.00
+375 (33) 359-97-02

**г. Лепель**
Группа “У озера”
Ул. Ленинская, 12, костел.
Расписание собраний: вторник, четверг – 18.00, суббота – 17.00
+375(29)729-63-70
+375(29)704-72-60

**г. Глубокое**
Группа “Точка отсчёта”
Ул. Советская, 4.
Расписание собраний: воскресенье – 15.00
+375 (29) 519-03-21

**г. Поставы**
Группа “Радость”
Ул. Набережная, 8.
Расписание собраний: среда и воскресенье – 18.00
+375 (29) 737-47-64

**г.п. Шумилино**
Группа “Свет”
ул. Светлосельская 2
суббота 15.00
тел. +375 29 8173632
эл. почта: mifik29@gmail.com

**г. Полоцк**
Группа "Секрет выздоровления"
ул. Держинского 50.
Расписание собраний:
среда 19:00, суббота 19:00
тел. +375 29 7019101

**Ал-Анон** – это содружество родственников и друзей алкоголиков, которые делятся друг с другом своим опытом, силой и надеждой, чтобы решать наши общие проблемы. Мы верим, что алкоголизм – это семейная болезнь, и что перемена отношения к ней способствует выздоровлению. Группы Ал-Анон не связаны с какой-либо религиозной организацией, политической группировкой или сообществом, не участвуют в полемике по каким бы то ни было вопросам, не касающимся нашей деятельности. У нас одна цель – помочь семьям алкоголиков.

**Инфолинии сообщества Ал-Анон Беларуси:**
+375 (29) 550-54-24 инфолиния
+375 (44) 515-29-56 офис РОО
www.alanon.by – сайт сообщества Ал-Анон Беларуси.

## Цэнтр дапамогі залежным ад алкаголю і наркотыкаў “Светач”

**211730, Віцебская вобласць, г.п.Бягомль, вул.Кірава, д.6**
**МТС +375 (33) 345 52 78;**
**8 (02157) 3-30-44**
**Сайт: http://aleteya.by/**
**“Светач” – месца, дзе людзі жывуць у цвярозай супольнасці цвярозым жыццём**

### *Хвала Хрысту!*



*Наш **пробашч кс. Мікалай Ціхановіч** 14 мая адзначыў **Дзень нараджэння**, а 19 мая – у яго **гадавіна святарскага пасвячэння.***

*Шаноўны ксёндз Мікалай! Мы дзякуем Пану Богу, што Вы з намі ў дарозе да святасці!*

*Шчыра віншуем Вас і жадаем Божага блаславення, апекі Маці Божай, рэалізацыі душпастырскіх планаў! Няхай у святарскай паслузе Вам заўсёды спадарожнічаюць мудрасць, сіла веры і сіла любові! Няхай Ваша святарскае жыццё будзе жывым голасам Евангелля і відавочным сведчаннем бязмежнага аддання Пану Богу!*

***З удзячнасцю і малітвай, вернікі касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

### *Хвала Хрысту!*



*З нагоды **20-годдзя святарскага пасвячэння** (1 мая) і **Дня нараджэння** (26 мая) сардэчна віншуем **ксяндза Эдварда Нарадоўскага!***

*Шчыра жадаем Вам, паважаны ксёндз Эвард, Божага бласлаўлення, моцнага здароўя, шчодрага плёну ў душпастырскай працы, добразычлівых людзей! Няхай Маці Божая нястомна апякуецца Вамі і выпрошвае шматлікія ласкі ў штодзённай святарскай паслузе!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Маці Божай Ласкавай у Задарожжы***

### *Хвала Хрысту!*



*Вернікі парафіі святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НМП у Паставах віншуюць **ксяндза-пробашча Вадзіма Прасяного** з **13-й гадавінай святарскага пасвячэння** (22.05.2010).*

*Шаноўны ксёндз-пробашч Вадзім! З гэтай нагоды дасылаем Вам нашы шчырыя віншаванні!*

*Усе гэтыя трынаццаць гадоў Вы правілі ў Паставах, служылі спачатку вікарыем, цяпер пробашчам. Вы атрымалі нямала духоўных пладоў і развівалі ў нас атрыманыя ад Пана Бога таленты. Вашымі вуснамі прамаўляе да нас Пан Бог. Мы цешымся таксама з таго, што Вы з намі дзеліцеся досведам свайго жыцця, дапамагаеце ўзрастаць у веры, заўсёды падтрымліваеце і натхняеце.*

*Няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашага святарскага служэння, хай Езус заўсёды будзе Вашым сябрам, а Маці Божая прытуляе Вас да свайго сэрца! Мы заўсёды памятаем Вас у малітвах!*

### *Хвала Хрысту!*



*1 чэрвеня наш **душпастыр Эдвард Ахрамовіч** адзначае **Дзень нараджэння і Дзень святарства.***

*Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцы, надзеі, веры і сілы, каб верна служыць Богу! Жадаем моцнага здароўя, Божай дапамогі, апекі Маці Божай і Анёла-Ахоўніка!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі св. Яна Хрысціцеля (аг. Опса)***

# Май – вігілія лета

**Май – гэта вігілія лета. Сонца і цёплае надвор'е не даюць нармальна засяроджвацца на звычайных рэчах, бо, гледзячы ў акно ці ідучы вуліцай, мы думаем ужо пра адпачынак, пра гарачыню і планы на лета.**

Я вырасла ў прыватным доме, лета заўсёды праводзіла на свежым паветры: снедала на дварэ, спала на арэлях, босая бегала па двары, а дахаты вярталася бліжэй да ночы. Таму, жывучы ў каменных джунглях мегаполісу, я мару пра лета ў бацькоўскім доме.

Наогул лета ў мяне заўсёды пачыналася ў касцёле. Ці то быў белы тыдзень – у якім спачатку я проста брала ўдзел, а потым дапамагала, ці то Канікулы з Богам, дзе спачатку была як просты ўдзельнік, а потым як аніматар.

Не паспеюць скончыцца "Канікулы з Богам", як трэба збірацца ў пілігрымку. Мама заўсёды казала, што сабраць двух дзяцей у пілігрымку па грошах тое самае, што адправіць на мора. Толькі з мора такімі шчаслівымі мы наўрад ці вярнуліся б! А яшчэ трэба было прыходзіць дапамагаць у падрыхтоўцы, на рэпетыцыі хору вучыць новыя спевы…

Напрыканцы чэрвеня з Ліды вырушае пілігрымка. Дзевяць дзён па-за рэчаіснасцю, толькі ты, супольнасць, маляўнічая Беларусь, размовы, адкрытыя людзі, якія першы раз глядзелі з недаверам, а пазней чакалі, калі ж нарэшце мы дойдзем да іх. Такія рэкалекцыі зараджалі на цэлы год. У Будслаў я хадзіла шэсць разоў, апошні – у 2019 годзе, але да сённяшняга дня вярталюся думкамі і ўспамінамі туды, дзе шмат што змянілася ў маім жыцці.

Не паспею вярнуцца з Будслава, як фэст у Тракелях. Апошні раз я пайшла туды нават без заплечніка: у кішэні курткі былі ружанец, тэлефон і грошы. Пасля 250 км да Будслава гэтыя 18 падаюць прагулкай, але яны маюць сваю традыцыю і рамантыку. Там можна сустрэць усіх знаёмых, суседзяў, настаўнікаў са школы і нават тых, хто, можа, і ў касцёл не ходзіць: "Усе ідуць ці едуць, і я таксама". Нехта пасля начной Імшы едзе дамоў і вяртаецца раніцай, нехта не вяртаецца, а нехта ўсю ноч сядзіць у намётах і п'е каву з тымі, з кім бачыцца толькі ў Тракелях.

Яшчэ з сябрамі некалькі гадоў запар мы ездзілі на фэст у Гудагай. Ці то цягніком, ці то на машыне, але адным і тым жа складам мы прыязджалі туды, адкуль некалі распачалі прыгоду з Будславам. Гудагайскую Кальварыю, якая на заходзе сонца цягнецца праз лес і поле, я раю ўсім, хто ў сярэдзіне ліпеня знаходзіцца непадалёк ад вёсачкі. Атмасферу, каторая там пануе, цяжка адчуць недзе яшчэ.

Далей лета супакойвалася: моладдзю па вечарах мы збіраліся каля касцёла, каб пагуляць у нейкія гульні, схадзіць на марозіва, пайсці на пляж на валейбол ці каб проста пабыць разам. Я любіла прыходзіць летам на вечаровую Імшу: касцёл пусты, як ніколі, бо ўсе бабулі раз'ехаліся па лецішчах, а сонца прабіваецца праз вокны на алтар, засяроджваючы мой позірк менавіта там.

Шмат хто з сяброў ездзіў на парафіяду, на музычную майстэрню, на розныя рэкалекцыі. Яшчэ летам была сустрэча пілігрымаў, якія шлі з Ліды ў Будслаў, пілігрымка Гродна – Рось, у апошні тыдзень жніўня – "Канікулы з Богам", а ў апошнюю нядзелю лета мы моладдзю збіраліся ўвечары на адарацыю, каб падзякаваць Богу за адпачынак. Пасля ў нас была Святая Імша, падчас якой мы маліліся аб бласлаўленні на новы навучальны год. На гэтую малітву збіралася ўся моладзь: вучні, студэнты, тыя, хто працуе. Гэта было найлепшым сведчаннем, што праведзены разам час браў свой пачатак у касцёле і што лета, як тут ні круці, было праведзенае з Богам.

Гады ідуць, бясклапотных канікулаў ужо няма. Пра такое лета засталіся толькі здымкі і ўспаміны. Але ні па адным адпачынку я так не сумую, як па школьных канікулах, калі найвялікшай праблемай было ўпрасіць маму на яшчэ адну пілігрымку…

***Яна Чайко***

## У Браславе адзначылі 100-годдзе Кангрэгацыі Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

⇒ У адрас сясцёр былі зачытаныя словы віншаванняў з нагоды юбілею ад Апостальскай Сталіцы, Мітрапаліта на пенсіі арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Маці генеральнай с. Малгажаты Ваврык SJE.

Няма падарунка, якім можна выказаць удзячнасць Касцёла за працу сясцёр, за іх гісторыю. Гэта вялікі прыклад для кожнага. "Сённяшні юбілей паказвае, што гісторыя вашай кангрэгацыі не маўчала", – адзначыў прадстаўнік Святога Пасаду і ўручыў с. Антаніне Багдановіч, настаяцельніцы дэлегатуры Беларусі і Літвы, адмысловы падарунак – памятны медаль ад Папы Рымскага.

Пасля св. Імшы с. Наталля Арлянковіч SJE запрасіла прысутных да прагляду прэзентацыі пра гісторыю і дзейнасць сясцёр-эўхарыстак ва ўсім свеце.

*Каб паглядзець прэзентацыю, адскануйце, калі ласка, сваім смартфонам QR-код.*

**Адпуст з нагоды юбілею**

Для паглыблення пабожнасці вернікаў і збаўлення душаў моцаю дазволаў, выдадзеных Святым Айцом Папам Францішкам з нагоды стагоддзя Кангрэгацыі, можна атрымаць адпуст пры выкананні звычайных умоваў.

**Хто можа атрымаць адпуст?**

- Сёстры Служабніцы Езуса ў Эўхарыстыі;
- Асобы, звязаныя з Кангрэгацыяй;
- Усе вернікі, якія выконваюць пакуту і маюць любоў у сэрцы.

**Калі?** Ад 19 сакавіка 2023 года да 19 сакавіка 2024 года.

**За каго ахвяраваць?** За душы, якія пакутуюць у чыстцы.

Умовы: наведаць капліцу альбо касцёл, пры якіх паслугоўваюць Сёстры Служабніцы Езуса ў Эўхарыстыі (Астравец, Барысаў, Браслаў, Полацк, Слабодка); прыняць пабожны ўдзел у юбілейных урачыстасцях альбо прысвяціць час на пабожныя разважанні; сакраментальная споведзь, Эўхарыстычная Камунія; памаліцца ў інтэнцыях Святога Айца "Ойча наш", Сімвал веры ("Веру ў Бога"), а таксама малітвамі да Маці Божай.

Асобы старэйшыя, хворыя і ўсе, хто па сур'ёзных прычынах не можа выходзіць з дому, таксама могуць атрымаць поўны адпуст, адкінуўшы ўсялякі грэх, з намерам выканаць звычайныя ўмовы, духоўна далучацца да юбілейных урачыстасцяў, ахвяруючы міласэрнаму Богу свае малітвы і цярпенні, а таксама жыццёвыя клопаты і нязручнасці, якія яны перажываюць.

**Друя: гісторыя і жывапіс**

У другой палове святочнага дня Апостальскі нунцый разам з біскупам Віцебскім і дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі накіраваліся ў Друю, дзе быў пачатак дзейнасці сясцёр-эўхарыстак. Там арцыбіскуп Антэ не толькі ўбачыў прыгажосць і гісторыю, але пазнаёміўся з захапленнем мясцовага пробашча кс. Сяргея Сурыновіча – жывапісам і наведаў яго экспазіцыю мастацкіх прац, якая знаходзіцца на першым паверсе кляштара. Шаноўныя госці пазнаёміліся з гісторыяй парафіі і сясцёр-эўхарыстак, для якіх Друя з'яўляецца роднай калыскай іх кангрэгацыі. І як адзначыў сам кс. Сяргей, "для нашай парафіі – гэта гістарычная падзея!"

***Марына Сінкевіч**, тэкст*
***Леанід Юрык**, фота*

# Чаму ўшанаванне Багародзіцы такое важнае для кожнага верніка?

**“Езус, убачыўшы Маці і вучня, які стаяў побач і якога Ён любіў, сказаў Маці: “Жанчына, вось сын Твой”. Потым сказаў вучню: “Вось Маці твая”. І з гэтага часу вучань узяў Яе да сябе” (Ян 19, 26-27).**

Гэтымі словамі Пан Езус давярае Марыі Касцёл, а супольнасці вернікаў давярае апеку і заданне годнага ўшанавання Найсвяцейшай Панны Марыі. Яна становіцца і нашай Маці праз усынаўленне нас як Божых дзяцей. Здаецца, што не трэба вучыцца, як любіць нашую нябесную Маці, але менавіта таму, што Яна з’яўляецца Маці Божай, адносіны да Яе маюць асаблівы, ні з чым непараўнальны характар. З дапамогай нам прыходзіць навучанне Касцёла, а асабліва рымскіх папаў, якія ў сваіх тэкстах звяртаюць увагу супольнасці вернікаў на адпаведную паставу ў адносінах да Найсвяцейшай Панны Марыі.

Адной з такіх крыніц з’яўляецца Апостальская адгартацыя Папы Паўла VI Marialis cultus. Хоць яна напісаная ў 1974 годзе і скіраваная да біскупаў як да тых, каму давераны клопат пра належнае ўшанаванне Пана Бога, але і цяпер кожны вернік з гэтага дакумента Касцёла можа зачэрпнуць штосьці для паглыблення веры. Перадусім Папа Павел VI звяртае ўвагу на тое, што пакланенне Маці Божай мае хрыстацэнтрычны характар. Яна не забірае ўвагу на сябе, але ўсю хвалу аддае свайму Сыну і Богу, Езусу Хрысту. З гэтым звязана тое, што нават ва ўрачыстасцях і ўспамінах, якія носяць марыйны характар, мы ўшаноўваем не саму Панну Марыю, але Хрыста разам з Ёй і праз Яе. Яна вучыць нас быць блізка да Хрыста на працягу ўсяго літургічнага цыклу ад Беззаганнага Зачацця, праз перажыванне мукі на крыжы разам са сваім Сынам, да радасці Уваскрасення і Спаслання Духа Святога.

Калі мы так перажываем Літургію, звяртаючы ўвагу не на саму Марыю, а на Таго, да Каго Яна нас набліжае, на Езуса, нашае пакланенне Марыі становіцца больш адпаведным. Чым большую пашану атрымлівае Сын, тым большай годнасцю цешыцца Яго Маці. Калі ж нас больш прыцягвае набажэнства, а на Святую Імшу мы застаёмся, бо яна і так ёсць пасля, то ў нашым духоўным жыцці няправільна пастаўленыя акцэнты. Набажэнства мае рыхтаваць нас да сапраўднага перажывання Эўхарыстычнай ахвяры. Вельмі лёгка страціць такую ўражлівасць.

Павел VI, узгадваючы рэкамендацыі Другога Ватыканскага сабору, звяртае ўвагу на захаванне разумнага падыходу ў аддаванні пашаны Найсвяцейшай Панне Марыі, не пераацэньваючы Яе ролі ў гісторыі Збаўлення, але і не змяншаючы. Папа звяртае ўвагу, што марыйны культ мае не проста ўздзейнічаць на нашыя пачуцці, але і глыбока ўплываць на нашае духоўнае жыццё, якое патрабуе сталага і трывалага клопату для развіцця. Марыю Павел VI называе ўзорам Касцёла. Яна ёсць нашай Настаўніцай, Якая вучыць уласным прыкладам, як аддаваць належную пашану Пану Богу.

Найперш, Марыя ёсць Паннай, Каторая слухае. Варта нам асабіста зрабіць рахунак сумлення, як часта мы слухаем Бога падчас Адарацыі ці разважаючы над Божым словам. А калі слухаем, то ці чуем, ці прымаем Яго слова так, як гэта робіць Марыя? Яна – Панна, Якая моліцца не толькі, калі гучыць яе Magnificat, але і падчас веселля ў Кане Галілейскай, калі звяртаецца з просьбай да свайго Сына. Праз паслухмянасць Богу Марыя ёсць Паннай, Якая нараджае.

Касцёл, таксама паслухмяны Богу, праз хрост нараджае сваіх духоўных дзяцей. Пытанне, ці наш уласны хрост зрабіў нас дзецьмі Божымі? Ці ўсведамленне таго, што мы называем Бога Айцом, уплывае на нашыя жыццёвыя рашэнні і абуджае прагненне, каб і іншыя адкрылі Божую любоў? Нарэшце, Марыя ёсць Паннай, Якая ахвяруе Богу ўсё, што мае найдаражэйшага, – Сына, у святыні і на Кальварыі. Праз гэта вучыць і нас, перажываючы Найсвяцейшую Эўхарыстычную Ахвяру, прымаць Божую волю і з радасцю, ахвотна на яе адклікацца.

Марыя з’яўляецца не толькі ўзорам Касцёла, але і прыкладам цнотаў для кожнага верніка, якія мы можам набываць і развіваць праз заступніцтва нашай нябеснай Апякункі. Адгартацыя пералічвае іх, падаючы месцы з Евангелля, якія падобныя якасці апісваюць. Гэта “вера і воля, ужываючыя на Божае слова (пар. Лк 1, 26-38; 1, 45;11, 27-29; Ян 2, 5); велікадушная паслухмянасць (пар. Лк 1, 38); шчырая пакора (пар. Лк 1, 48); клапатлівая любоў (пар. Лк 1, 39-56); разважлівая мудрасць (пар. Лк 1, 29. 34; 2, 19. 33. 51); пашана да Бога, якая заахвочвае да спаўнення рэлігійных абавязкаў (пар. Лк 2, 21. 25-40. 51), да праяўлення ўдзячнасці за атрыманыя даброты (пар. Лк 1, 46-49); да складання дароў у святыні і малітвы ў супольнасці Апосталаў (пар. Дз 1, 12-14); моц духа ў выгнанні ( пар. Мц 2, 13-23); у болю (пар. Лк 2, 34-35. 49; Ян 19, 25); убогасць, поўная годнасці і даверу да Бога (пар. Лк 1, 48; 2, 24); чуйны клопат пра Сына, пачынаючы ад пакоры ясляў да ганьбы крыжа (пар. Лк 2, 1-7; Ян 19, 25-27); лагодная прадбачлівасць (пар. Ян 2, 1-12); паненская чыстасць (пар. Мц 1, 18-25; Лк 1, 26-38); моцная і чыстая сужэнская любоў”(МС 57). Гэтыя цноты маюць стаць духоўнымі пладамі ўсіх тых, хто ўзіраецца ў Найсвяцейшую Панну Марыю, ушаноўваючы Яе падчас Літургіі і набажэнстваў. Няхай Яна, поўная ласкі, дапамагае нам разам з Ёй імкнуцца лепш пазнаць і палюбіць Хрыста!

***Айцец Павел Мажэйка ОР***
*(Віцебск)*

# Дамашняя птушка? Хатняя? А можа, свойская?

**Тэму сённяшняга моўнага артыкула падказала чытачка “Каталіцкага Весніка” з Докшыцкага раёна спадарыня Вера С.**

■ **Юрась Бабіч** , *кандыдат філалагічных навук*

Яна ў лісце да аўтара рубрыкі задае некалькі пытанняў, што датычаць правільнасці беларускага словаўжывання. Але асаблівую ўвагу звяртае на наступнае: “Вось ужо некалькі гадоў я гадую курэй, гусей, індыкоў у сваёй роднай вёсцы, куды вярнулася з горада. Гэта для мяне захапляльны занятак, я апякуюся сваімі птушкамі штодня, нават штогадзіны... Яны для мяне як сябры, – піша сп-ня Вера. – І вось неяк выпадкова задумалася: а як правільна іх называць? Гэта *дамашнія* птушкі ці ўсё ж *хатнія*, бо яны ж гадуюцца каля хаты, пры хаце? Для мяне гэта важна, бо апошнім часам я ўсё больш сур’ёзна цікаўлюся беларускай мовай. І хочацца гаварыць правільна...”

Адразу хацелася б падзякаваць сп-ні Веры і за важнае, актуальнае пытанне, і за цікавасць да нашай роднай мовы. Тым больш што наша чытачка закранула праблему, звязаную з культурай маўлення, з чысцінёй беларускага слова. Таму паспрабуем разабрацца.

Сапраўды, і ў вусным маўленні, і ў пісьмовых тэкстах мы часта сустракаем канструкцыі кшталту *дамашняя птушка* ці *хатняя птушка*. Але з пункту гледжання лагічнай семантыкі такія словазлучэнні не зусім правільныя, бо *дамашні* – гэта, найперш, “прызначаны для задавальнення бытавых патрэбаў у доме (*дамашні тэлефон, дамашнія туфлі*); зроблены, прыгатаваны дома, у сваёй гаспадарцы (*дамашні хлеб, дамашняе віно*); сямейны, прыватны (*дамашні настаўнік, дамашняе выхаванне*). Прыметнік *хатні* выступае па сутнасці як сінонім да слова *дамашні*, таму таксама можна сказаць *хатні тэлефон, хатняе віно* і г.д., хоць такія спалучэнні і менш частотныя.

Што ж датычыць жывёлы ці птушак, якіх мы гадуем у сваёй гаспадарцы, то тут варта выкарыстоўваць прыметнік **свойскі**. Гэта ў значна большай ступені адпавядае традыцыям нашай мовы і ўзбагачае культуру маўлення. Прыметнік **свойскі** мае наступныя значэнні: “не дзікі, выгадаваны чалавекам – пра жывёл, птушак (*І **свойскія** гусі таксама / Добра ляталі калісьці, / І з ветрам умелі спрачацца, / І крылы аб воблакі чысціць.* Янка Сіпакоў; – *Гэта і ёсць **свойскае** дрэва. Яблыня, – з прыкметнаю злосцю ў голасе адказаў Хрупак. – Была **свойская**, а стала **не свойская**. Здзічэла.* Іван Чыгрынаў).

Дарэчы, менавіта прыметнік **свойскі** са згаданым значэннем фіксуецца ў “Беларуска-рускім слоўніку” М. Байкова і С. Некрашэвіча (1962, с. 285): “Свойскі – не дикий, домашний; свойскія качкі – домашние утки”. А яшчэ ў згаданым слоўніку прыметнік **свойскі** слушна падаецца як “прыручаны, рахманы (па-руску *ручной, смиренный*): **свойскае** жарабя – ручной жеребенок”. З гэтым жа значэнне названы прыметнік часта ўжываецца ў мастацкай літаратуры, у тым ліку нашымі славутымі класікамі. Прыгадаем пару прыкладаў: *Ласяняты ў гадавальніку хутка зрабіліся зусім **свойскімі*** (Віталь Вольскі); *Маладую, калі прыехалі дадому, пан загадаў замкнуць у далёкіх пакоях. Маладога – кінуць свойскаму мядзведзю* (Уладзімір Караткевіч).

Такім чынам, адказваючы на пытанне нашай чытачкі сп-ні Веры С., заўважым, што па-беларуску варта выкарыстоўваць канструкцыю **свойскія птушкі**, а не *дамашнія* ці *хатнія*. Здавалася б, дробязь, але на самай справе з такіх нібыта нязначных моўных дэталяў і складваецца агульная культура словаўжывання, якой варта прытрымлівацца нам усім.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:
***Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
***Місевіч Віктар Мар’янавіч вул. Савецкая, 1 211793 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

*Рэдакцыя*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Клімент Александрыйскі



**Прыйсце хрысціянства ў Александрыю**

Гісторыя хрысціянства ў Александрыі мае даволі спецыфічны пачатак. Там Евангелле абвяшчалі не пасланыя Хрыстом апосталы і нават не пазнейшыя біскупы, святары ці дыяканы. Хрысціянства туды прыйшло разам з людзьмі, якіх прыцягвала да сябе вялікая ў тыя часы метраполія – Александрыя.

Гэта быў другі па велічыні пасля сталіцы горад Рымскай імперыі. Ён знаходзіўся ў правінцыі Егіпет (сапраўды, гэта афрыканская краіна, у якой сёння так любяць адпачываць нашы турысты, у 30 годзе перад Хрыстом страціла сваю незалежнасць і сталася рымскай правінцыяй) і быў слаўны сваімі навучальнымі ўстановамі. У Александрыі выкладаліся асаблівым чынам філасофія, а таксама юрыдычныя і медыцынскія навукі. Таму сюды з усёй дзяржавы з'язджаліся студэнты, у тым ліку і хрысціяне. Яны засвойвалі веды, а адначасова дзяліліся з іншымі сваёй "сапраўднай" філасофіяй, якой навучыліся ад Езуса Хрыста. Пакрысе гэтыя людзі ўпісваліся ў краявід тагачасных філасофскіх школ і самі сталі адкрываць свае школы. У іх замест вучэння Платона, Плоціна ці нейкага іншага старажытнага мысляра выкладалася вучэнне Хрыста, якое лічылася сапраўднай мудрасцю, бо дазваляла весці справядлівае і мірнае жыццё. Найстарэйшыя айцы Касцёла, якія паходзілі з Александрыі, былі настаўнікамі такіх філасофскіх школ.

Вядома, не ўсе александрыйскія настаўнікі філасофіі былі прававернымі. Так, вучэнне гностыкаў, фактычна сумесь розных язычніцкіх філасофскіх і рэлігійных поглядаў пад шыльдачкай хрысціянства, не было прызнана Касцёлам хрысціянскім вучэннем. Аднак сярод розных імёнаў тагачасных ерэтыкоў, такіх, як Маркіён ці Валенцініян, узыдмаюцца велічныя імёны прававерных настаўнікаў, чые творы яшчэ дагэтуль натхняюць вызнаўцаў Хрыста, адкрываючы ім Божую праўду.

**Клімент – настаўнік "сапраўднай філасофіі"**

Адным з такіх вялікіх настаўнікаў быў св. Клімент Александрыйскі. Паходзіў ён, верагодней за ўсё, з Афін, быў выхаваны ў язычніцкай сям'і. У юнацкім узросце Клімент пасля нядоўгай вандроўкі па свеце пераехаў у Александрыю, дзе спачатку вывучаў філасофію, а потым, скончыўшы навучанне, ужо будучы хрысціянінам, сам узначаліў філасофскую школу. Нам вядома імя настаўніка Клімента – Пантэн (больш пра яго, аднак, нічога невядома). Некаторыя крыніцы падаюць, што Клімент атрымаў святарскае пасвячэнне, але гэта няпэўная інфармацыя. Дакладна пра гэтага айца Касцёла можна сказаць толькі тое, што сучаснікі ўспрымалі яго як настаўніка ўласнай філасофскай (некаторыя называюць яе катэхетычнай) школы, каторы сваім вучням выкладаў праўды хрысціянскага вучэння.

**Трылогія Клімента**

Захаваліся тры асноўныя творы Клімента Александрыйскага:

1) "Пратрэптык", або "Заахвота да Евангелля";
2) "Педагог", або "Выхаваўца";
3) "Строматы", або "Дываны".

Названыя творы, нават калі аўтар гэтага не задумваў ад пачатку, утвараюць працяглы аповед, які штораз глыбей уводзіць чытача ў хрысціянскае вучэнне. Мы называем такі працяг, складзены з трох твораў, трылогіяй.

*"Пратрэптык"* – першы "дотык" Евангелля. У гэтым творы паказаны досвед чалавека, які адкрываецца на Бога і прыслухоўваецца да Яго мудрасці.

*"Педагог"* – гэта больш глыбокія ўводзіны ў вучэнне Божага Слова (Логаса), якое сталася целам.

*"Дываны"* – вольны зборнік мудрасці, розных павучэнняў і прыказак. Мудрасць сыходзіць на верніка, калі ён жыве побач з Хрыстом.

**Хто такі "сапраўдны гностык"?**

Клімент у сваіх творах вядзе палеміку (спрэчку) з гностыкамі, якія каля яго школы адкрылі свае школы. Спрэчка зводзіцца да паказання "сапраўднага гнозіса" (г.зн. ведаў, вучэння). Аўтар не адкідвае досвед глыбокага пазнання таго, што боскае (гэтым досведам вельмі ганарыліся гностыкі, абмяжоўваючы яго, аднак, толькі да нейкіх таемных ведаў, якімі валодалі толькі тыя, хто прайшоў спецыяльную ініцыяцыю). Разам з тым, Клімент "накладвае" на гэты досвед хрысціянскае тлумачэнне. Для яго "сапраўдным гностыкам" з'яўляецца не той, хто мае "асветлены розум", але той, хто ўсё сваё жыццё фармуе паводле Божай мудрасці. Гэтая мудрасць атаясамліваецца ў Клімента з Боскім Логасам, які існуе ў Богу і з Богам ад пачатку, паказвае сваю прысутнасць у стварэнні свету і, нарэшце, уцелаўлёны ў Езуса Хрыста, выкладвае перад намі ўсе свае багацці.

У вучэнні шмат якіх гностычных школ для збаўлення хапала толькі асвятлення інтэлекту, а маральнасць жыцця трактавалася вельмі свабодна: ад адрачэння ад ўсяго да крайняй распусты. Паводле Клімента, сапраўная мудрасць – гэта адчувальная, сутнасная (а не таемная) ініцыяцыя ў па-сапраўднаму Божы "стыль" жыцця. Клімент наўпрост кажа, што кожны чалавек пакліканы да таго, каб сваім жыццём наследаваць Божую мудрасць, Боскі Логас.

**Філасофія – "прэлюдыя" да пазнання Бога**

Важным "падарункам", які "дорыць" Касцёлу Клімент Александрыйскі, з'яўляецца яго перакананне ў глыбокім паразуменні паміж хрысціянскім вучэннем і мудрасцю, якую можна здабыць "натуральным розумам" (пры дапамозе філасофіі). Наш аўтар аказваў вялікую пашану філосафам, г.зн. людзям, мыслярам, якія выкарыстоўвалі розум, каб пазнаць рэчаіснасць, адкрыць праўду пра прыроду, пра яе Стваральніка, а перадусім – пра чалавека і пра тое, хто ён такі і як павінен жыць. Настаўнік з Александрыі меў глыбокае перакананне наконт магчымасці весці дыялог рэлігіі з філасофіяй, а таксама пра тое, што існуе толькі адна праўда, якую мы поўнасцю можам спазнаць толькі дзякуючы Божаму Аб'яўленню. Апошняе змяшчаецца на старонках Святога Пісання, крыецца ў "святой гісторыі", якая ў ім распавядаецца (тут маецца на ўвазе гісторыя збаўлення чалавека). Праўду, якая паходзіць ад Бога, адкрывае праз створаныя рэчы чалавечы розум, што здольны таксама адкрыць Боскі Логас.

> **У творах Клімента мы сустракаем вельмі адважнае меркаванне аўтара, паводле якога філасофія для грэкаў з'яўляецца тым, чым для хрысціян – стары габрэйскі Закон.**

Філасофія, паводле яго, у нейкім сэнсе ўводзіць язычнікаў у глыбіню Божага Аб'яўлення. Яна ёсць прадвесцем, падрыхтоўкай і нават пэўным "кантактам" з сапраўдным Логасам, які аб'явіўся ўсім людзям у Езусе Хрысце.

**Лёс Клімэнта і яго значэнне для хрысціянства**

Клімент Александрыйскі прападае з гістарычных апісанняў падчас пераследу веры ў 202-203 гг. Тады скончылася яго дзейнасць у Александрыі. Настаўнік пакінуў горад, якому прысвяціў найлепшыя гады свайго жыцця. Мы дакладна не ведаем, што з ім сталася пасля гэтага. Паводле адных крыніц, Клімент прыняў мучаніцкую смерць. Паводле іншых, адправіўся ў Цэзарэю Кападакійскую, дзе дачакаўся натуральнага заканчэння свайго жыцця.

У кожным выпадку, дзякуючы Кліменту Александрыйскаму, які прызнаў карысць філасофскіх навук для пазнання рэлігійных праўдаў, тэалогія выйшла на новы, больш высокі ўзровень, вынікам чаго сталася з'яўленне вялікага настаўніка веры і вучня Клімента – Арыгена.

*Кс. Павел Эйсмант*

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Францішка Звежынская** *(Малэйкаўшчына)*, **Валянціна Пятрова** *(Мёры)*, **Ала Пятрова** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Святлана Зайцава** *(Свідна)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Гертруда Блышко** *(Глыбокае)*, **Васіль Яноўскі** *(Завараты)*, **Станіслаў Вышадка** *(Завараты)*, **Сцепаніда Лупач** *(Завараты)*, **Вераніка Васілеўская** *(Вялікае Абаб'е)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Тэрэза Балтромун** *(Бастуны)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Валерыя Шакель** *(Лугі)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Святлана Урбановіч** *(Захарнічы)*, **Марыя Харнікава** *(Чарняўка)*, **Марыя Шыцько** *(Ажуны)*, **Яніна Парфяновіч** *(Шаркаўшчына)*, **Ванда Кірылава** *(Ёды)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Данута Ільіч** *(Яцкавічы)*, **Ала Трус** *(Таргуны)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Яўгенія Гунько** *(Барысаў)*, **Алена Дзядова** *(Навагрудак)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Кацярына Цатэвіч** *(Дзераўная)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Валерыя Шымковіч** *(Навасёлкі-2)*, **Рэгіна Белюн** *(Петкунішкі)*, **Раіса Казаровец** *(Варапаева)*, **Людміла Страчынская** *(Івянец)*, **Яніна Шаркевіч** *(Жодзіна)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Галіна Кіжла** *(Кумпіні)*, **Тэрэза Мардасевіч** *(Нясвіж)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Аліна Шакур** *(Вялікае Абаб'е)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Святлана Зайцава** *(Свідна)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Крысціна Цярэнцьева** *(Браслаў)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Ірына Руткоўская** *(Радзюкі)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Жана Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Часлава Далман** *(Коўзаны)*, **Станіслава Рагожкіна** *(Пліса)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Раіса Лапушынская** *(Коўзаны)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Віктар Муляронак** *(Глыбокае)*, **вернікі з Задарожжа, Дана Алексіна** *(Глыбокае)*, **Сільвестр Блышко** *(Гірстуны)*, **Анатоль Цырук** *(Глыбокае)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ніна Гайдзель** *(Яя)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Эльвіра Богуш** *(Глінішчына)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Сяргей Бабкевіч** *(Мядзел)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Ядвіга Станкевіч** *(Віцебск)*, **Ліля Іватовіч** *(Яневічы)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Ядвіга Голенькая** *(Віцебск)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Ядвіга Алейдзан** *(Вялікае Абаб'е)*, **Кліменціна Крымская** *(Наваполацк)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Аліна Латыш** *(Паставы)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Дана Варанько** *(Друя)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Махальская Алена** *(Падсвілле)*, **Тэрэза Хвайніцкая** *(Руткевічы)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Ада Шумская** *(Наваполацк)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Зінаіда Рамашка** *(Мінск)*, **Часлава Паршута** *(Павяцце)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Францішка Мурашка** *(Даўгінава)*, **Тэрэса Рулевіч** *(Браслаў)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***

# ПАЗНАВАЙКА

**Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл.**

Хвала Хрысту. Дарагі дружа, вітаем цябе ў майскім нумары "Пазнавайкі". Май - гэта месяц, асабліва прысвечаны Маці Божай. У гэтым месяцы ў касцёлах, каля прыдарожных крыжоў і каплічак, вернікі збіраюцца, каб ушаноўваючы Багародзіцу, маліцца Ларэтанскай літаніяй.

## ЗАДАННЕ 1.

*У італьянскім горадзе Ларэта ёсць базыліка, унутры якой знаходзіцца домік з Назарэта, дзе жыла Найсвяцейшая Панна Марыя. Менавіта ў гэтым горадзе ўзнікла прыгожая малітва, у якой мы просім аб заступніцтве Маці Хрыста.*

У Ларэтанскай літаніі ёсць заклікі да Найсявцейшай Панны Марыі як да Маці. Маці Хрыста, Касцёла і кожнага з нас. Успомні гэтыя заклікі, знайдзі іх сярод літар у табліцы. Адказы запішы.

| | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Б | е | з | з | а | г | а | н | н | а | я | з | с | К | я | Н |
| м | а | й | а | б | а | в | і | ц | е | л | я | н | а | К | е |
| н | я | Д | с | в | я | т | а | я | л | Л | ч | ц | с | м | п |
| а | т | о | і | о | э | м | к | у | а | Б | о | г | ц | ч | а |
| й | я | б | х | в | о | р | а | я | с | д | о | м | ё | т | р |
| м | й | р | г | р | э | ш | н | ы | к | м | а | я | л | й | у |
| і | б | а | ш | ч | а | с | ц | е | і | ц | ы | ч | а | е | ш |
| л | т | й | р | а | д | ы | л | ж | к | Б | о | ж | а | й | н |
| е | м | а | к | т | п | р | а | ч | ы | с | т | а | я | т | а |
| й | с | Х | р | ы | с | т | о | в | а | с | у | д | ы | л | я |
| ш | в | д | а | р | ы | с | т | в | а | р | ы | ц | е | л | я |
| а | я | т | М | і | л | а | с | э | р | н | а | с | ц | і | а |
| я | т | с | а | к | р | а | м | э | н | т | ы | д | а | р | н |
| о | н | а | й | ц | у | д | о | ў | н | е | й | ш | а | я | ё |
| й | п | а | т | р | ы | я | р | х | ж | ы | ц | ц | ё | п | л |
| н | я | в | і | н | н | а | я | в | р | у | ж | а | а | н | ы |

Маці Х________________
Маці К________________
Маці л________________
Маці М________________
Маці п________________
Маці б________________
Маці н________________
Маці н________________
Маці н________________
Маці н________________
Маці д________________
Маці С________________
Маці З________________

## ЗАДАННЕ 2.

Дапамажы дзецям прайсці лабірынт і трапіць да Маці Божай на маёвае набажэнства



## ЗАДАННЕ 3.

Прачытай Евангелле паводле Мацвея (28, 16–20). Выканай заданні крыжаванкі. Калі паставіш літары на зялёным фоне ў адпаведным парадку – даведаешся, якая ўрачыстасць адзначаецца ў Касцёле 18 мая.

*Замест шматкроп'я ўстаўце прапушчаныя словы.*

1. Колькі апосталаў было пры ўнебаўшэсці Езуса Хрыста?
2. Адзінаццаць вучняў ..... ў Галілею на гару.
3. Хто загадаў апосталам ісці на гару?
4. Што зрабілі вучні, калі ўбачылі Езуса?
5. Дадзена Мне ўсялякая ўлада на .... і на зямлі.
6,7,8. Якія тры загады пакінуў апосталам Езус Хрыстус перад унебаўшэсцем?
9. І вось Я з вамі ва ўсе .... аж да сканчэння веку.




## ЗАДАННЕ 4.

Размалюй ілюстрацыю. Падумай, з якой інтэнцыяй ты пойдзеш на наступнае маёвае набажэнства.



*Мастачка: **Вольга Будкіна**; ідэя: **Вікторыя Філіпенка***

# Маёвая сустрэча святароў і манахінь Віцебскай дыяцэзіі прайшла ў Марыйным санктуарыі

**11 мая ў Санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Шуміліне адбылося душпастырскае спатканне біскупа Алега Буткевіча са святарамі, законнымі братамі і сёстрамі Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст;* **Леанід Юрык**, *фота*

Сустрэча распачалася з канферэнцый для ксяндзоў і манахінь. Доктар маральнай тэалогіі пробашч з Глыбокага кс. Мікалай Ціхановіч падзяліўся духоўным і містычным досведам прыватных аб'яўленняў у служэнні экзарцыста і сведчанні свайго сыноўства з Маці Марыяй. Святар распавёў, што ў 2017 годзе ў гэтай святыні, калі адзначаўся стагадовы юбілей фацімскіх аб'яўленняў, ён нанова і цалкам даручыў сябе Маці Божай, і з таго моманту распачаліся яго блізкія адносіны з Багародзіцай.

Кс. Мікалай паразважаў над працытаваным урыўкам малітоўнага дзённіка "In Sinu Jesu" аднаго ірландскага святара, да якога ў цішыні Эўхарыстычнай адарацыі прамаўляў Госпад:

*"Каждый священник и семинарист должен посвятить себя Непорочному Сердцу Моей Матери. Без Моей Матери они рискуют стать теплыми, а затем холодными. Без Неё они уступят греховным привычкам и будут слишком слабы, чтобы подняться, когда упадут. Без Неё в их жизнях не будет радости, нежности, сладости и теплоты, которыми Ее Непорочное Сердце наполняет души тех, кто посвящает себя Ей.*

*Люби Мою Матерь и расскажи об этом другим! Не бойся, ты не можешь слишком сильно любить Мою Матерь. Твоя любовь к Моей Матери никогда не приблизится к Моей в Её нежности, сыновней преданности и внимании ко всем желаниям Её Сердца. Я любил Свою Матерь и Своей жизнью говорил о Её любви. Прежде всего Я помог Моим апостолам полюбить Её: любя Её, они возрастали и в любви ко Мне. После Моего вознесения они собрались возле Неё, как возле источника огня и света. Так они готовились принять излияние Святого Духа в день Пятидесятницы.*

*Священник по Сердцу Моему будет всем сердцем любить Мою Матерь. Священник по Сердцу Моему будет исполнять все желания Моей Матери; он будет слушать Её и следовать Её советам. Посвящение священников и семинаристов Непорочному Сердцу Моей Матери избавит Церковь от злоупотреблений, опозоривших Моё священство и всю Церковь. С высоты Креста Я видел всех Моих священников до скончания века, и им Я сказал: "Се, Матерь твоя!"*

*(6 лістапада 2011 г., с. 263)*

Прамоўца заахвоціў братоў у святарстве перажываць сваё сыноўства з Марыяй, пераймаць ад яе пяшчоту і любоў. "І толькі тады, калі пражываеце гэтае сыноўства, зможаце адчуць айцоўства духоўнае да сваіх вернікаў", – падкрэсліў кс. Мікалай.

Для манаскіх сясцёр а. Анджэй Юхневіч OMI распавядаў пра духоўную роднасць кансэкраваных асоб з Маці Божай. Святар растлумачыў імя Марыі. У XX стагоддзі геолагі адкрылі больш за дваццаць тысяч таблічак, якія фармавалі старую біблійную мову. Там імя Марыі азначае "ўзвышаць" альбо "веліч". Другое значэнне – "свячка Найвышэйшага" – Тая, якая належыць да роду Божага. Езус з боку свайго апекуна Юзафа быў з каралеўскага роду Давіда, з боку Маці – са святарскага роду Аарона. Такім чынам, Езус – і Кароль, і Святар адначасова. Складанне манаскіх шлюбаў для асобы кансэкраванай – гэта "хачу больш". Прамоўца заахвочваў манахінь не засяроджвацца на найменшым, а далей развівацца, бо гэта вынікае з духоўнасці Маці Божай.

Затым быў час на прабыванне ў цішыні ў прысутнасці Езуса Эўхарыстычнага і Сакрамант пакаяння.

Святую Імшу цэлебраваў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Ардынарый прывітаў на сустрэчы прадстаўніка Апостальскай нунцыятуры ў Грузіі і Арменіі кс. пралата Аляксандра Рагіню, які мае магчымасць час ад часу наведваць сваю Бацькаўшчыну.

У гаміліі біскуп Алег адзначыў: "Марыйная пабожнасць – гэта гарантыя таго, што мы ідзём у добрым кірунку", і заклікаў памятаць пра адказнасць перад Богам за невыкананне сваіх святарскіх абавязкаў і пра радасць ад сваёй пастырскай паслугі.

Дзякуючы прысутнасці "Pro Christo", "Добры пастыр" і "Marta_home" святары і манахіні змаглі набыць неабходную духоўную літаратуру і дэвацыяналіі для сваіх парафіяльных супольнасцяў.

Падчас розных анонсаў і навінаў з дыяцэзіі, якія прадставіў канцлер курыі кс. канонік Віктар Місевіч, адбылася кароценькая прэзентацыя каталіцкага валанцёрскага IT-праекта Imsha.by. Сяргей Раюнец распавёў пра сістэму, дзе пасля Будслаўскіх урачыстасцяў будзе змешчаны ў адным месцы расклад Імшаў з розных парафій Беларусі з актуальным раскладам.



# Каляндар на чэрвень

**1** чэрвеня – свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара;
**2** чэрвеня – успамін святых Марцэліна і Пятра, мучанікаў;
**3** чэрвеня – успамін св. Караля Луангі і паплечнікаў, мучанікаў з Уганды;
**4** чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы;
**5** чэрвеня – успамін св. Баніфацыя, біскупа і мучаніка;
**6** чэрвеня – успамін св. Норбэрта, біскупа;
**8** чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста;
**9** чэрвеня – успамін св. Эфрэма, дыякана і доктара Касцёла;
**13** чэрвеня – успамін св. Антонія Падуанскага, святара і доктара Касцёла;
**16** чэрвеня – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса;
**17** чэрвеня – успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі;
**19** чэрвеня – успамін св. Рамуальда, абата;
**21** чэрвеня – успамін св. Алаізія Гanзагі, законніка;
**22** чэрвеня – успамін св. Джона Фішара, біскупа, і Томаса Мора, мучанікаў; св. Паўліна Нольскага, біскупа;
**24** чэрвеня – урачыстасць Нараджэння св. Яна Хрысціцеля;
**27** чэрвеня – успамін св. Кірыла Александрыйскага, біскупа і доктара Касцёла;
**28** чэрвеня – успамін св. Ірэнэя, біскупа і мучаніка;
**29** чэрвеня – урачыстасць святых Пятра і Паўла, апосталаў;
**30** чэрвеня – успамін св. Першамучанікаў Рымскага Касцёла.



## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячны!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – А; 3 – А; 4 – В; 5 – В; 6 – Б; 7 – А; 8 – А; 9 – Б; 10 – В


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2441

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 22.05.2023 г. у 8.10



**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by



ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь